ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 40 (2390) 6 кастрычніка 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 20 рублёў.





**Ужо амаль тыдзень працуе чарговая, XVI сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, на якую ўсе мы ўскладалі вялікія надзеі, аднак пакуль што нічым, акрамя спрэчкі паміж прэзідэнтам і парламентам, яна не вызначылася. Асноўным пытаннем на сесіі павінна стаць пытанне рэфармавання нашай хворай эканомікі. Праграма па выхаду рэспублікі з крызісу, вылучаная прэзідэнтам, вельмі жорсткая, і, што найбольш не задавальняе прафсаюзы і кожнага грамадзяніна, у ёй не вытрымліваецца асноўная мэта -- не дапусціць зніжэння ўзроўню жыцця народа.**

**(Каментарый "Ну як! Прыплылі?" аб рабоце сесіі чытайце на 2-й стар.).**

**НА ЗДЫМКАХ: прэзідэнт РБ Аляксандр ЛУКАШЭНКА ў час работы сесіі; у зале пасяджэнняў.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

**У МІНСКУ АДКРЫЛАСЯ ШЛЮБНАЕ АГЕНЦТВА "ІН СПАЙТ ОФ"**

## ПАКУЛЬ ТРЫВАЮЦЬ КАРЫЯТЫДЫ

Нічога дзіўнага ці незвычайнага ў аб'яве, убачанай у рэспубліканскай газеце, не было. Чаго толькі зараз не прапануюць! Дык ці трэба здзіўляцца запрашэнню звярнуцца ў міжнароднае шлюбнае агенцтва? Праўда, неяк адразу ўспомніліся артыкулы былых гадоў, дзе высмейваліся замежныя сваццi і адчуваўся гонар, што ў нас такое немагчыма, шлюбы тут заключаюцца выключна па каханню і трымаюцца на роўнасці полаў, узаемнай павазе і агульных інтарэсах. Увогуле стала цікава, як выглядае гэты чарговы замежны парастак, перанесены на родную беларускую глебу, і я пазваніла па ўказаным тэлефоне. Прыемны жаночы голас згадзіўся на сустрэчу, і я адправілася ў шлюбнае агенцтва "Ін спайт оф" пры фірме Святаслава Маеўскага. Супрацоўніца агенцтва Таццяна Мельнічук паказвае мне папкі з лістамі ад замежных кліентаў, дзелавую перапіску, анкеты і фотаздымкі нашых жанчын, што звярнуліся сюды. Гартаю старонкі, углядаюся ў твары людзей, якія шукаюць сваё шчасце па ўсім свеце, і лаўлю сябе на думцы, што адзінота -- рэч інтэрнацыянальная, яна не залежыць ні ад краіны, ні ад сацыяльнага статуса, ні ад узроўню дабрабыту. Нас заўсёды вучылі, што любы разлік у каханні і шлюбе недапушчальны, варта спадзявацца і чакаць, і шчасце абавязкова прыйдзе само. На Захадзе ж да гэтых праблем ставіліся больш практычна і лічылі, што без намаганняў увогуле нельга нічога вартаснага стварыць, тым больш такую сур'ёзную рэч, як сям'я, і калі нешта не атрымліваецца, трэба не сядзець склаўшы рукі, а гэтымі ж самымі рукамі будаваць сваё шчасце. Адсюль -- і шлюбныя агенцтвы. Але ж гэта -- там. А як у нас?

Па-першае, нашаму новаму агенцтву трэба было знайсці надзейных партнёраў за мяжой. Не адразу ўсё атрымалася, але зараз існуюць даволі трывалыя сувязі з такімі ж арганізацыямі ў Германіі, Італіі, Амерыцы і Францыі. Наладжваюцца кантакты і з іншымі краінамі. Амерыканскі партнёр агенцтва "Ін спайт оф" не абы-хто, а шэрыф невялікага горада ў цёплай Каліфорніі. Уладкаванне асабістага жыцця яго кліентаў для шэрыфа нешта накшталт хобі, якое добра дапамагае ў асноўнай працы, бо, згадзіцеся, мужчына, абцяжараны шчаслівым шлюбам,

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*ДА 80–ГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ ЛЯВОНА СЛУЧАНІНА*

## "ПРЫЙДЗЕ МОЙ ДЗЕНЬ..."

ЖЫВЕ на Беларусі паэт, драматычны лёс якога незвычайна цесна знітаваны з лёсам нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны. Лявон Случанін-Шпакоўскі -- аўтар цікавых паэм "Рагнеда", "Пагоня", "Ісус Хрыстос", вялікага аўтабіяграфічна-вершаванага рамана "Алесь Няміра", шматлікіх змястоўных вершаў, якіх хапіла б не на адзін зборнік. Ён нарадзіўся на Случчыне (вёска Лучнікі), у самым цэнтры Беларусі, у той час, калі праз яе кацілася навала імперыялістычнай вайны 1914 года. ("Крывёй сцякала Беларусь. Спраўлялі баль чужыя раці... Якраз у гэтую пару на сьвет мяне радзіла маці...").

Пачатак творчасці Л.Шпакоўскага прыпадае на перадваенны перыяд, калі ён яшчэ вучыўся ў Мінскім вышэйшым педінстытуце. Яго вершы, пераклады (найперш з рускіх паэтаў) пад псеўданімам "Лявон Случанін" друкуюцца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. Быў нават падрыхтаваны і зборнік вершаў, аднак аўтара спасцігае трагедыя тых таленавітых беларускіх пісьменнікаў, якія былі рэпрэсіраваны ў гады сталіншчыны. З 1937 года паэт, не паспеўшы пачаць настаўніцкую працу ў Чэрыкаве, ужо будуе Беламорканал у ліку тысяч зняволеных. Але (што надзвычай рэдка здаралася) нават НКУС прызнаў беспадстаўнасць яго арышту, і Л.Шпакоўскі вярнуўся ў родную вёску. Яго паэтычны талент выжываў і выспяваў у цяжкіх абставінах таталітарнага рэжыму, але ён жыў вершамі і спадзяваўся:

**"...прыйдзе мой дзень,**
**і знайду я патрэбныя словы,**
**тыя словы, якія цяпер**
**не пачую ніколі й нідзе,**
**буду ўмець і чмялямі гусьці**
**ў раззалочаным цвеце ліповым**
**і шаўковай шасцець асакой**
**на зялёнай, зацвілай вадзе.**
**Усё папраўдзе скажу я тады,**
**для сябе не пакіну нічога,**
**усе памылкі, усе ўзлёты**
**злічу і расою рассыплю ў лагох.**
**Доўг жыццю заплачу, рэшту**
**з добрага, рэшту**
**з благога..."**

Як жа атрымалася, што паэт сплачвае і ніяк не можа сплаціць свой неіснуючы доўг перад жыццём?

Вызвалены з ГУЛАГа напярэдадні вайны, Л.Случанін працуе ў Лучнікоўскай школе амаль усе ваенныя гады, а ў 1944-м разам з сям'ёй выязджае ў Германію. Перажыўшы смерць дачкі і цяжкую хваробу жонкі, ён, не вытрымаўшы расстання з радзімай, вяртаецца дамоў. Юрка Віцьбіч, беларускі пісьменнік-эмігрант, пра гэты перыяд жыцця Л.Случаніна пісаў так: "У часе вайны працуе на адным з заводаў у Нямеччыне як "остарбайтер". У тэй жа Нямеччыне ўжо пасля ейнае капітуляцыі нечакана і заўчасна памірае..." ("Ля чужых берагоў". Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў. Мюнхен, 1955).

Згадвае Л.Случаніна ў сваім інтэрв'ю газеце "Беларус" (май 1984) яшчэ адзін пісьменнік-эмігрант Янка Золак: "Лявона Случаніна я знаў добра, гэта быў мой сябра. З ім я працаваў у часе нямецка-савецкае вайны ў школе, дзе ён быў загадчыкам, а я завучам. Тут жа мы выдалі два нумары рукапіснага часопісу "Васілёк", дзе змяшчалі свае творы. Праўда, праца гэтая цягнулася ўсяго адзін год, бо ў школе надоўга закватаравала мадзярская частка. Пасля школы разам з ім я працаваў у рэдакцыі "Газэты Случчыны", "прабацькам" якое стаўся наш "Васілёк". Як бачыце, з Лявонам Случаніным (яму прысвечаны мой верш "Сябру-паэту") я працаваў і сябраваў, але наша сяброўства скончылася пасля выезду Лявона з Нямеччыны на бацькаўшчыну. Даведаўшыся аб гэтым, я напісаў эпіграму:

**"Залатую яго маладосць**
**Растапталі чэкісты ботамі,**
**Ды сабе і людзям на злосць,**
**Да чэкістаў ён едзе**
**з ахвотаю".**

Дзіўная рэч: эміграцыя асудзіла і нават пахавала яго за тое, што ён, не пабаяўшыся кары НКУС, вярнуўся на бацькаўшчыну, таталітарны рэжым зрабіў усё, каб знішчыць чалавека і паэта. Але ён не памёр, а быў тымі ж чэкістамі асуджаны на 15 гадоў катаргі, якую адбываў у канцлагерах Варкуты.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*НА СЕСІІ ААН*

## СУСТРЭЧА УЛАДЗІМІРА СЯНЬКО З БУТРАСАМ ГАЛІ

**У штаб-кватэры ААН і Нью-Йорку ў рамках 49-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН адбылася сустрэча міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Сянько з генеральным сакратаром ААН Бутрасам Галі. У ходзе сустрэчы былі закрануты пытанні ўдзелу нашай рэспублікі ў эканамічным, сацыяльным і іншых накірунках дзейнасці гэтай уплывовай міжнароднай арганізацыі. Міністр прапанаваў ААН больш прагматычна падыходзіць да цяжкіх праблем краін з пераходнай эканомікай, да якой, у прыватнасці, адносіцца і Беларусь. Ён таксама звярнуў увагу генеральнага сакратара на складаную ўнутраную сітуацыю ў рэспубліцы, якая склалася ў выніку засухі, на чарнобыльскую праблематыку.**

**Адбыўся абмен меркаваннямі наконт рэфармавання ААН і падрыхтоўкі да яе 50-годдзя.**

**Генеральны сакратар Бутрас Галі пацвердзіў сваю пазіцыю аб намерах далейшага супрацоўніцтва з Беларуссю гэтай арганізацыі з мэтай садзейнічання працягу рэформаў.**

*БЕЛАРУСКІЯ РУБЛІ*

## У ПАДВАЛАХ НАЦБАНКА

**Старшыня Праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч пацвердзіў, што ў падвалах Нацыянальнага банка захоўваюцца аддрукаваныя грошы, так званы новы "беларускі рубель". Ён не мае нічога агульнага з цяперашнімі беларускімі разліковымі білетамі, хіба толькі тое, што будзе мець хаджэнне на тэрыторыі рэспублікі. Праўда, гэта адбудзецца не раней, чым праз год. Мяркуючы па ўсім, новы "рубель" з'явіцца ў кашальках грамадзян толькі пасля таго, як эканоміка рэспублікі паправіць сваё здароўе і выйдзе на ўзровень інфляцыі 7 працэнтаў у месяц, а то і менш.**

*ДЭЛЕГАЦЫЯ З-ЗА МЯЖЫ*

## ДЭМІЛІТАРЫЗАЦЫЯ ПА-ЯПОНСКУ

**У Мінску пабывала дэлегацыя японскіх спецыялістаў, якая абмеркавала з беларускім бокам перспектывы выкарыстання 5,2 мільёна долараў, што "належаць" Беларусі па дагавору аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі.**

**Японскі бок разгледзеў заяўку навуковатэхнічнага камітэта Міністэрства абароны Беларусі на рэабілітацыю аднаго з былых ваенных гарадкоў ракетных войск стратэгічнага прызначэння пад Паставамі. Сродкаў, выдзеленых японскім урадам, недастаткова для канверсіі былой ракетнай часці, аднак японцы гатовы пачаць экалагічную ачыстку яе тэрыторыі. Фінансавая дапамога з Усходу можа і ўзрасці за кошт прыватных японскіх фірм. Гэтаму пакуль перашкаджае беларускае заканадаўства ў галіне замежных інвестыцый.**

*КАШЧУНСТВА*

## НА МЕСЦЫ ПАХАВАННЯ -- ГАРАЖЫ...

**Няма, напэўна, у Віцебску ніводнага чалавека, які б не ведаў гэтага жалобнага месца -- раён 5-га палка. Тут у час вайны знаходзіўся канцлагер для ваеннапалонных і грамадзянскіх асоб. Да гэтага часу захоўвае зямля астанкі замучаных, расстраляных, памерлых ад голаду рускіх, беларусаў, украінцаў.**

**І вось праз паўстагоддзя на месцы, дзе бязлітасна знішчаны каля 80 000 савецкіх людзей, пачалося інтэнсіўнае будаўніцтва прыватных гаражоў. Гарвыканком не прамарудзіў зрэагаваць: узвядзенне аб'ектаў было забаронена. Але энергічныя прыватнікі з гаражнага кааператыва і не падумалі спыніцца. Будаўніцтва ідзе поўным ходам.**

*КІРМАШЫ*



**Восень -- самая багатая пара года, пара збору ўраджаю. На традыцыйны восеньскі кірмаш прывезлі ў Мінск сваю прадукцыю калгасы і саўгасы рэспублікі, фермеры і арганізацыі Белкаапсаюза.**

**Мнагалюдна і ажыўлена было ў гандлёвых радах каля Палаца спорту. Гародніна, фрукты, мясныя вырабы і іншае літаральна расхоплівалася.**

**НА ЗДЫМКУ: у гандлёвых радах кірмашу.**

*ТАКІЯ НОРАВЫ*

## ПРАДАЕЦЦА... "КАЛЕКТЫЎ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПРАЦЫ"

**Нядаўна званне калектыву сацыялістычнай ці камуністычнай працы, пераходныя Чырвоныя сцягі сімвалізавалі асобыя працоўныя дасягненні тых ці іншых калектываў. Сёння за вытворчыя дасягненні падобнымі знакамі адзнакі ўжо не ўзнагароджваюць. А сімвалы былой працоўнай доблесці з-за непатрэбнасці перакачоўваюць паціху ў магазіны антыкварыяту. Напрыклад, у кіёску "Сувеніры", што належыць "Саюздруку", па сходнай цане можна купіць не толькі размаляваныя матрошкі, але і атрыбуты адыходзячай эпохі развітога сацыялізму. Вымпел "Калектыў Камуністычнай працы" каштуе 18 тысяч рублёў, вымпел "Лепшая акцябрацкая група" -- 11 тысяч. Ёсць тут пераходныя сцягі, ордэны і медалі, камсамольскія значкі. І недалёка, відаць, той час, калі на прылаўках магазінчыкаў на бойкім месцы мы ўбачым імянныя Ганаровыя граматы.**

*НОВАЯ ПАСАДА*

## БЫЎ ПРЭМ'ЕРАМ -- СТАЎ ПРЭЗІДЭНТАМ

**Як стала вядома, былы прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч пачаў выконваць абавязкі прэзідэнта гандлёва-фінансавага саюза. "Мая задача -- садзейнічаць прамысловым прадпрыемствам Беларусі па ўмацаванні іх эканамічных сувязей з прадпрыемствамі іншых краін СНД, найперш Расіі", -- заявіў былы прэм'ер. Галоўная мэта саюза -- паскарэнне плацяжоў і руху тавараў паміж краінамі Садружнасці. Сам Кебіч параўнаў сваю новую пасаду па неафіцыйнаму наменклатурнаму рангу з пасадай кіраўніка галіновага "главка".**

**Што да матэрыяльнага боку пытання, то, па словах Кебіча, ён будзе атрымліваць не больш, чым на пасадзе прэм'ер-міністра. "Я не хачу атрымліваць больш, каб ніхто не мог мяне папракнуць у гэтым". Вячаслаў Кебіч паведаміў таксама, што ў бліжэйшы час не збіраецца прымаць актыўнага ўдзелу ў палітычнай барацьбе. Ён абверг чуткі пра тое, нібы быў запрошаны ў якасці дарадчыка прэм'ер-міністра Расіі Віктара Чарнамырдзіна. "Нават калі б мяне запрасілі, я не згадзіўся б", -- заявіў Кебіч.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У КАЛГАСЕ імя Калініна на Маладзечаншчыне не першы год працуюць кітайскія рабочыя. Яны вырошчваюць цыбулю. Штодзённа дзесяткі тон яе паступае з гаспадаркі ў Мінск і іншыя гарады.

ПА ДАНЫХ Дзяржкамстата Рэспублікі Беларусь, за 1993 год было закрыта 682 прадпрыемствы грамадскага харчавання на 37,6 тысячы пасадачных месцаў.

УНІКАЛЬНУЮ палімерную плёнку пачалі выпускаць у аб'яднанні "Аграпрамтэхніка". Упакаваныя ў яе мяса, вараная каўбаса і іншыя прадукты могуць доўга захоўвацца нават без халадзільніка.

ТАТАРСКАЯ абшчына колькасцю 150 чалавек зарэгістравана ў Слоніме, што на Гродзеншчыне. Татары тут пасяліліся яшчэ ў часы князя Вітаўта. Яны служылі ў войску па ахове граніц Вялікага Княства Літоўскага. Іменамі военачальнікаў названы некаторыя вуліцы гэтага раённага цэнтра.

МІНСК наведала дэлегацыя горада Карлсруэ федэральнай зямлі Бадэн-Вюртэнберг (Германія). У час яе сустрэчы з прадстаўнікамі Міністэрства знешніх эканамічных сувязяў Рэспублікі Беларусь вяліся перамовы па стварэнню Германа-Беларускага дома.

*НАТАТКІ З НАГОДЫ*

## НУ ЯК? ПРЫПЛЫЛІ?

У Доме ўрада і вакол яго зноў ажыўленне: пачала работу шаснаццатая, магчыма, апошняя для гэтага дэпутацкага корпуса сесія Вярхоўнага Савета. Сесія чарговая, але і адметная: калі раней у зале пасяджэнняў існаваў адзін цэнтр агульнай увагі, адно "ядро" -- прэзідыум пасяджэнняў і яго старшыня, то цяпер з не меншай цікавасцю дэпутаты паглядаюць і ў левы бок ад стала прэзідыума, туды, дзе асталяваўся першы беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Здаецца, нават у першую чаргу глядзяць на яго, а потым ужо на свайго непасрэднага начальніка -- спікера Мечаслава Грыба. І не таму, што не паважаюць апошняга, проста са спікерам, як кажуць, усё зразумела, а вось, як будзе паводзіць сябе прэзідэнт, як будзе рэагаваць на тыя ці іншыя прапановы, а часам і проста выпады, пакуль цяжка прадугадаць. Тым больш, что перад пачаткам сесіі даволі актыўна абмяркоўваліся пытанні: ці паразумеюцца паміж сабой прэзідэнт і парламент, ці не чакае нас паўтарэнне сумных маскоўскіх падзей мінулагодняй восені? Пра гэта я і спыталася ў народных дэпутатаў Генадзя Карпенкі (старшыня Партыі народнай згоды) і Уладзіміра Ганчарыка (старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі).

**Г. КАРПЕНКА.** Я б не называў канфрантацыяй пэўнае несупадзенне поглядаў паміж прэзідэнтам і дэпутатамі. Спадзяюся, усё будзе вырашацца так: вось мяжа Канстытуцыі, а вось праз гэтую мяжу нехта хоча пераступіць. Дзяліць паўнамоцтвы няма патрэбы, яны ўжо падзелены, вызначаны Канстытуцыяй. А што тычыцца несупадзення поглядаў, то, зразумела, што ў кожнага чалавека, кожнага дэпутата яны свае. Ну а чые больш правільныя, гэта таксама трэба вызначыць з дапамогай законаў і Канстытуцыі.

Галоўнае, што мы павінны зрабіць на сесіі, -- прыняць закон аб мясцовым самакіраванні і закон аб выбарах новага парламента.

**У. ГАНЧАРЫК.** Думаю, што падставы для процістаяння парламентарыяў і прэзідэнта ёсць, і развіцца яно можа на глебе непаразумення ў падзеле ўлады. Але хацелася б, каб і ў аднаго, і ў другога боку хапіла розуму не дапусціць такога і заўсёды памятаць, што ўлада -- гэта не толькі правы, але і не менш вялізныя абавязкі. А пакуль нам трэба прыняць закон аб выбарах народных дэпутатаў, прызначыць дату выбараў і скласці свае паўнамоцтвы. Гэта галоўнае. Трэба будзе вырашыць і некаторыя бягучыя пытанні, асноўнае сярод якіх -- праграма першачарговых мер па выхаду краіны з эканамічнага крызісу.

Такая ці прыкладна такая пазіцыя і ў большасці парламентарыяў. Адно засмучае, што некаторыя з іх да першачарговых праблем адносяць перагляд існуючай дзяржаўнай сімволікі Беларусі. Ці сапраўды гэта так, запыталася я ў старшыні парламенцкай Камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны, знакамітага беларускага паэта **НІЛА ГІЛЕВІЧА.** Вось што ён расказаў:

-- Такую прапанову, больш дакладна, прапанову вынесці на разгляд сесіі пытанне аб стварэнні чарговай камісіі па вывучэнню дзяржаўнай сімволікі ўносіў у прэзідыум Вярхоўнага Савета дэпутат Жукоўскі -- прадстаўнік ветэранскай арганізацыі. Дарэчы, ужо не першы раз. Але цяпер Жукоўскага падтрымаў прэзідэнт Лукашэнка, які сказаў, што калі прэзідыум не пагодзіцца з Жукоўскім, то такую камісію дадзенымі яму паўнамоцтвамі створыць сам прэзідэнт. Тым не менш прэзідыум пакуль не прыняў прапанову Жукоўскага. Па-першае, сёння хапае праблем больш жыццёва важных -- тых жа эканамічных, па-другое, зноў пераглядаць дзяржаўную сімволіку (прайшло толькі тры гады ад прыняцця) увогуле несур'ёзна, гэта было б на здзіўленне ўсяму цывілізаванаму свету, які ўжо ведае наш сцяг і герб. Менавіта гэтая сімволіка на ўсіх кантынентах, у сотнях краін заняла пачэснае месца, да яе з павагай паставіліся. Не матывавана будзе нейкае там стварэнне камісіі па перагляду, няма падстаў.

Але хаця прэзідыум не прыняў рашэнне звяртацца да сесіі, ён даручыў парламенцкай камісіі, куды ўваходзіць дэпутат Жукоўскі, з дапамогай гісторыкаў, культуролагаў усё ж такі аднавіць вывучэнне дзяржаўнай сімволікі. Што будзе далей -- не ведаю, але ўпэўнены, калі і сапраўды адбудзецца такі перагляд, -- гэта будзе ганьбай для краіны на ўвесь свет.

Што ж, пажывём-пабачым. Мне здаецца, што ўсё ў нас будзе ціха, і дзякуй Богу, але гэта ў глабальным маштабе. У больш канкрэтных выпадках ужо даўно хацелася б бачыць якія-небудзь зрухі, станоўчыя, зразумела. З кім жа цяпер звязваць свае чарговыя радужныя надзеі? Прэзідэнцкая каманда ўсё яшчэ занятая дзяльбой партфеляў, уладкаваннем новых кабінетаў і абкаткай новых аўтамабіляў. У нашых народных дэпутатаў таксама настрой не той. "Вось і прыплылі". Так ці прыкладна так можа сёння сказаць сам сабе кожны з іх. "Прыплылі" -- не ў сэнсе, што нечага там натварылі, а ў амаль прамым сэнсе -- нарэшце на гарызонце замаячыў (не вельмі чаканы для многіх парламентарыяў) бераг -- канец дэпутацкіх паўнамоцтваў. Не, зразумела, не сёння і нават не заўтра пакладуць дэпутаты свае мандаты і пакінуць утульную, ужо абжытую за столькі год залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета, але час бяжыць хутка, не паспееш азірнуцца -- восень, зіма праляцелі, а ўвесну... А ўвесну... усё добрае калі-небудзь канчаецца. Даплылі. Прыплылі?

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# ПАКУЛЬ ТРЫВАЮЦЬ КАРЫЯТЫДЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

значна менш за адзінокага халасцяка схільны да розных глупстваў і супрацьпраўных учынкаў. Маладых і даўганогіх бландзінак прадбачлівы шэрыф папрасіў пакінуць для іншых агенцтваў, справядліва мяркуючы, што замест спакою яны могуць унесці ў яго ціхі горад смуту і разлад. І, сапраўды, больш надзейна мець справу з менш яркімі, але ж спакойнымі і простымі жанчынамі, якія хочуць шчасліва і ўдала ўладкаваць сваё жыццё. Азнаёміўшыся з дасланымі фотаздымкамі і анкетамі, шэрыф, напэўна, успомніў легенду аб загадкавым рускім характары і запытаўся ў мінскіх партнёраў, куды ж глядзяць нашы мужчыны, калі не заўважаюць такі цуд? Што яму адказаць, калі гэта як ваенная тайна з вядомага апавядання Аркадзя Гайдара: у нас яе ведае кожны, але ніводнаму буржуіну зразумець яе не дадзена.

Як ужо паказаў вопыт агенцтва, шчасце часам можна знайсці не ў далёкай Амерыцы ці Германіі, а праз сценку ці ў суседнім пад'ездзе. Аднойчы ў агенцтва прыйшоў ліст ад мужчыны з Беларусі. Шукаць нявесту за акіянам ён не збіраўся. Пісаў, што адзінокі, што ўжо некалькі год самастойна выхоўвае трох сыноў, якіх пасля разводу з жонкай яму пакінуў суд. Паведамляў, што пазбаўлены дрэнных звычак, любіць дзяцей і шукае добрую жанчыну для спакойнага сямейнага жыцця. Праз некалькі дзён пазваніў. Якраз у гэты час у агенцтве знаходзілася жанчына, што запаўняла анкету для адпраўкі ў Амерыку. Паслухала яна гэтую размову і раптам папрасіла: "Дайце мне нумар яго тэлефона". Сазваніліся, сустрэліся, спадабаліся адзін аднаму. І аказалася, што зусім не абавязкова ляцець за шчасцем у далёкую Амерыку.

Давайце гаварыць шчыра: да тых, хто звяртаецца ў такія агенцтвы, мы ставімся з недаверам: маўляў, самі з-за нейкіх прычын, схаваных ці яўных недахопаў, уладкаваць сваё асабістае жыццё не змаглі, вось і ідуць за дапамогай сюды. Сярод кліентаў агенцтва -- людзі розныя. Гартаю анкеты нямецкіх мужчын -- лётчык, вядучы інжынер, медык, таваразнаўца. Ёсць маладыя, ёсць і больш сталага ўзросту. Дык сярод нашых жанчын таксама не толькі дваццацігадовыя прыгажуні. Шмат з іх маюць вышэйшую адукацыю і паважаныя прафесіі -- выкладчык ВНУ, напрыклад, ці банкаўскі работнік. Многія доўга вагаюцца, перш чым звярнуцца сюды, гэта бачна хаця б па тым, як жанчына запаўняе анкету. Даходзіць яна да графы "дзеці" і асцярожна піша: "1--13". "А што гэта значыць?" -- пытаюцца ў яе. Кліентка збянтэжана гаворыць, што мае адну дачку ва ўзросце трынаццаці год.

-- Вось і даводзіцца тлумачыць жанчыне, -- гаворыць Таццяна, -- што замуж яна выходзіць не адна, а таму лепш прынесці прыгожы каляровы фотаздымак, дзе яна разам з дачкой, і падрабязна напісаць, якая разумніца гэтая самая "1--13". Тым больш, што на Захадзе дзеці -- прадмет гонару сям'і, і ставяцца да іх там не як да абузы, а як да яшчэ адной вартасці будучай жонкі. Практычна кожная жанчына расказвае пра тое, як добра яна прыбірае, мые бялізну, гатуе і выконвае працу па дому. Таццяна рэкамендуе пісаць аб гэтым у графе "хобі", бо за мяжой такія чароўныя дзівацтвы, як імкненне праводзіць паўжыцця ля пліты ці над тазікам, прынята адносіць у разрад "свет нашых захапленняў".

Увогуле сказаць, што жанчыны, якія звяртаюцца ў агенцтва, кіруюцца адным толькі жаданнем любой цаной пакінуць гэтую краіну, нельга. Канешне ж, прысутнічае і такі матыў, але ён далёка не адзіны, нават не галоўны, бо не толькі матэрыяльны дабрабыт вызначае шчасце і спакой жанчыны. У былыя часы аб замежных мужчынах мы маглі меркаваць толькі па састарэлых лідэрах замежных дзяржаў, якія на экранах тэлевізараў палка цалавалі нашага генсека. І паколькі іншых мужчын не бачылі, любілі сваіх, бо лічылі, што ўсе астатнія -- такія ж. Сёння, калі замежныя госці перасталі быць рэдкасцю, раптам высвятліліся дзіўныя рэчы. Ну, напрыклад, што на свеце ёсць мужчыны, якія ўстаюць, калі жанчына заходзіць у пакой, лічаць неабходным падаць ёй паліто, зняць у памяшканні капялюш, пацалаваць жанчыне руку замест таго, каб трэсці яе ў моцным камсамольскім рукапацісканні, а замест традыцыйнага "а пайшла ты..." гавораць "выбачайце" ці проста ўсміхаюцца. Спачатку гэта выклікае шок, а потым нястрымнае і пакутлівае жаданне зведаць яшчэ і яшчэ раз гэтыя дзіўныя пачуцці...

Што, у сваю чаргу, рухае замежнымі мужчынамі, якія шукаюць жонак у нашай краіне? Калі партнёр агенцтва "Ін спайт оф" з нямецкага боку размаўляе са сваімі кліентамі, ён вельмі часта пытаецца ў іх, чаму яны хочуць ажаніцца менавіта з рускімі і ўвогуле, ці ведаюць яны, што гэта за жанчыны? "Ведаем, -- адказваюць кліенты. -- Таму і хочам ажаніцца менавіта з імі". На Захадзе доўгія гады існуе легенда аб рускай жанчыне -- пяшчотнай, моцнай, самаахвярнай і прыгожай, легенда, якая, па сутнасці, апраўдвае сябе, і мода на рускіх жонак, якая, здаецца, ніколі не праходзіла. "Наши жены -- пушки заряжены", -- з некаторым сумам працытавала Таццяна вядомую песню... Да таго ж, апошнім часам на Захадзе набраў сілу і расквітнеў феміністкі рух. Наколькі рашуча, цвёрда і амаль апантана жанчыны там узяліся даказваць, што могуць цалкам абысціся ў гэтым жыцці без дапамогі і ўвогуле ўдзелу ў ім мужчын, сведчыць хаця б той факт, што ў добрай старой Англіі да паслуг жанчын, што вырашылі стаць маці, створана 167 спецыяльных клінік па штучнаму апладненню. Чамусьці здаецца, што мужчыны, якіх адсунулі ўбок нават з таго месца, куды іх паставіў сам Бог, адчуваюць сябе нібыта няўтульна. Вось і шукаюць яны тут усё тое, што страцілі ў сябе дома, бо ў нашай краіне жанчыны ўжо даўным-даўно стаміліся ад той самай роўнасці, самастойнасці і незалежнасці, за якую на Захадзе зараз так энергічна змагаюцца.

Шлюбнае агенцтва "Ін спайт оф" яшчэ вельмі маладое, але ўжо можа пахваліцца канкрэтнымі ўдачамі і ўладкаванымі лёсамі. У супрацоўнікаў агенцтва -- вялікія планы. Хацелася б зняць памяшканне бліжэй да цэнтра, адкрыць фатаграфію, каб адразу можна было зрабіць каляровы здымак, цырульню, дзе б жанчыне дапамаглі стаць прыгажэйшай, будзе пашырацца кола замежных кліентаў. Мне падаецца, што ўсё гэта і многае іншае ў іх атрымаецца, і гарантыя таму -- нашы жанчыны, самы дарагі і самы неацэнны набытак нашай дзяржавы. Яны цярпліва, гадамі выносяць цяжкасці, чэргі, нястачы, а таксама мужчын, якія не могуць забяспечыць ім і іх дзецям годнага існавання. Гэта на іх слабых, а не на магутных дэпутацкіх плячах трымаецца пакуль што зыбкі спакой краіны, і іх зварот у шлюбнае агенцтва -- своеасаблівы пратэст супраць жыцця, якое больш нельга цярпець. Раней жанчын, што выходзілі замуж за іншаземцаў, ганьбілі, як маглі, і вінавацілі за тое, што яны не любяць сваю Радзіму. Ды любяць яны яе, проста сама Радзіма не вельмі любіць іх. Жанчыны, чыя працавітасць, пяшчота, любоў, самаахвярнасць і адданасць так нікому тут і не спатрэбіліся, ад'язджаюць у пошуках шчасця і цяпла ў чужыя краіны. Дай ім Бог. Але калі карыятыды, якія трымаюць на сваіх кволых плячах гэтую дзяржаву, пойдуць з тых месцаў, дзе мужчыны настолькі прызвычаіліся іх бачыць, што даўным-даўно перасталі заўважаць, рухне цяжкі дах, і тады прыйдзецца зразумець увесь цяжар страты. Колькасць жанчын, што звяртаюцца ў агенцтва, павялічваецца. І гэта толькі пачатак...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**P.S. Паважаныя жанчыны, калі вы знойдзеце за мяжой сваё шчасце і пакінеце сваю Радзіму, не забудзьце падпісацца на газету "Голас Радзімы".**



# ЗМЯНІЎШЫ КІБІТКУ НА ДОМ



**Калі доўгі час цыгане раз'язджалі па гарадах і вёсках на кібітцы качавой, то ў апошнія дзесяцігоддзі многія схіляюцца да іншага жыцця. Усё больш цягне іх да аселасці: купляюць і будуюць свае дамы, працуюць на вытворчасці.**

**Некалькі цыганскіх сем'яў набылі сабе жыллё ў старадаўнім Нясвіжы. Мнагадзетная сям'я Кацярыны Багдановіч пераехала сюды з Літвы. Некаторыя члены сям'і працуюць, іншыя займаюцца камерцыяй, з суседзямі жывуць мірна. Многія з дванаццаці дзяцей бабулі Кацярыны маюць свае сем'і, ёсць у яе ўжо дванаццаць унукаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: Кацярына БАГДАНОВІЧ з членамі сваёй сям'і. Чалавек, глыбока веруючы, яна ходзіць у касцёл, але і ад гадання на картах, як гаворыць сама, ужо адмовіцца не можа; сямігадовая КРЫСЦІНА -- адна з унучак старой цыганкі.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

ЛІЦЭЮ Ў БЕЛЬСКУ-ПАДЛЯСКІМ СПОЎНІЛАСЯ 50 ГАДОЎ

# НАДЗЕЯ НА ДОБРУЮ БУДУЧЫНЮ НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

24--25 верасня на Беласточчыне адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 50-годдзю Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляскім і юбілею беларускага дзеяча, навукоўца, асветніка, настаўніка Яраслава Кастыцэвіча. З гэтай нагоды на Беласточчыне пабывала афіцыйная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь, а таксама прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, мастацтва, навукі і культуры.

Сярод гасцей свята былі афіцыйныя асобы Польшчы. У Бельск-Падляскі прыехаў віцэ-прэм'ер Уладзімеж Чымашэвіч, якога вельмі паважаюць тутэйшыя беларусы. Сярод ганаровых гасцей -- прадстаўнікі беларускага пасольства на чале з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы Георгіем Таразевічам, на свята з Мінска прыехаў міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч.

-- Сённяшняя з'ява вельмі прыгожая, -- адзначыў Анатоль Іванавіч у размове з карэспандэнтам Белінфарма. -- 50 гадоў працы любой навучальнай установы ўвогуле вялікая падзея. А тое, што Беларускі ліцэй паўстагоддзя ўжо дзейнічае ў Польшчы, -- падзея адметная ўдвая. Вельмі радуе і падае нейкую надзею на добрую будучыню нашай бацькаўшчыны тое, што дух беларускі захаваўся і ў гэтых мясцінах. Вельмі прыемна, што столькі гадоў існуе ліцэй, што менавіта адсюль разышлося па зямлі мноства людзей, якія шануюць беларускасць.

Міністр адзначыў, што сёння гэтая падзея, магчыма, узварухне і беларусаў, якія жывуць на Бацькаўшчыне. Тым больш, што кантакты паміж суседнімі краінамі ў апошні час значна пашыраюцца і людзі могуць наведваць адзін аднаго, знаёміцца, размаўляць, вырашаць нейкія праблемы разам, дапамагаючы адзін аднаму. Дарэчы, Міністэрства культуры і друку прыняло ў свяце самы актыўны ўдзел. Да юбілею спадар Бутэвіч прывёз у падарунак ліцэю мемарыяльную дошку, прысвечаную аднаму з заснавальнікаў навучальнай установы Яраславу Кастыцэвічу, а таксама бібліятэчку беларускіх выданняў і карціну.

"Усе гэтыя памяткі, -- адзначыў міністр, -- застануцца тут і будуць нагадваць тутэйшым людзям пра Беларусь, пра тое, што там не забыліся аб беларусах, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны".

Святочная імпрэза працягвалася два дні. Пасля ўрачыстасцей і афіцыйных выступленняў "уладу" ўзялі знакамітыя беларускія артысты. Анатоль Ярмоленка і ансамбль "Сябры" ў гонар ліцэя далі для ўдзельнікаў і гасцей урачыстасцей вялікі канцэрт. Беларуская песня гучала ў гэты дзень, здавалася, па ўсёй Беласточчыне.

Беларуская дзяржава ў апошнія гады аказвае нашым суайчыннікам на Беласточчыне вельмі значную дапамогу ў будаўніцтве музея ў Гайнаўцы. Туды была перададзена даволі вялікая колькасць мармуру, дубу, мікашэвіцкага граніту для абсталявання музея. Над стварэннем экспазіцыі працуе вядомы беларускі мастак Эдуард Агуновіч. Ёсць надзея, што ў наступным годзе музей адкрыецца.

# 21-я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

**У пачатку верасня ў Таронта (Канада) адбылася 21-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амерыкі. Падобныя з'езды заўсёды мелі пэўны важкі ўплыў не толькі на беларускую дыяспару за мяжой, але і на палітычныя колы Злучаных Штатаў Амерыкі і іншых краін Захаду.**

**Сёлета ў Таронта былі запрошаны прадстаўнікі Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Беларускага народнага фронту. Удзельнікі сустрэчы прынялі дакументы, з якімі мы знаёмім сёння чытачоў (падаюцца на мове арыгінала). Артыкул прэзідэнта ЗБС "Бацькаўшчына" Радзіма Гарэцкага аб яго паездцы ў Канаду і ЗША будзе змешчаны ў наступным нумары.**

## ПРЫВІТАНЬНЕ

### ПРЭЗЫДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРУ ЛУКАШЭНКУ

Мы, канадыйцы і амэрыканцы беларускага паходжаньня, удзельнікі 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў горадзе Таронта ў Канадзе вітаем Вас, вельмі паважаны спадар Лукашэнка, на Вашым новым становішчы Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь і шчыра жадаем Вам і ўсяму Беларускаму народу як найхутчэйшага выхаду з эканамічнага і духовага крызісу, што ахапіў цэлую краіну. Беларусы Канады і Злучаных Штатаў Амэрыкі зь вялікай увагай сочаць ход падзеяў на Беларусі і спрыяюць умацоўваньню беларускае дзяржаўнасьці і дэмакратыі ды выхаду Беларусі на шырэйшыя міжнародныя сувязі. Намаганьні свае ў гэтым кірунку мы будзем працягваць і ў будучыні.

Мы адначасна спадзяёмся, што новы ўрад Беларусі пры Вашым прэзыдэнцтве будзе аздараўляць ня толькі эканоміку, але й беларускую нацыянальную культуру, якая пацярпела ня менш за эканоміку. Пагатоў, што эканоміка і культура цесна ўзаемазьвязаны. Мы хацелі-б бачыць Ваша спрыяньне падвышэньню нацыянальнае сьведамасьці беларускага народу, што вынішчалася на працягу стагодзьдзяў, мацаваньню незалежнай і дэмакратычнай беларускай дзяржавы, стварэньню эканамічнай моцы Беларусі, адраджэньню нацыянальнай культуры і асваеньню здабыткаў сусьветнай цывілізацыі.

Мы асабліва спадзяёмся, што Вы паспрыяеце захаваньню цяперашняга афіцыйнага статусу беларускай мовы, як ён вызначаны ў Канстытуцыі дзяржавы і не паддасьцёся націску з боку камуністаў і іншых непрыяцеляў беларускага нацыянальнага адраджэньня, якія дамагаюцца наданьня афіцыйнага статусу ў Беларусі таксама і мове суседняе расейскае дзяржавы, мове, якая ніякім чынам не прыцясьняецца ў Беларусі. Мы таксама спадзяёмся, што Вы як дэмакратычна абраны Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь будзеце падтрымліваць адзін з галоўных інстытутаў дэмакратычнага ладу -- свабоду сродкаў масавай інфармацыі.

Грамадзяне Канады і Злучаных Штатаў Амэрыкі, якія паходзяць зь Беларусі або маюць сваяцкія, эканамічныя і культурныя сувязі зь Беларусьсю, жадаюць Вам, вельмі паважаны Прэзыдэнт Лукашэнка, добрага здароўя і ўдачы ў Вашай адказнай працы на карысьць вольнай, самастойнай і дэмакратычнай Беларусі, на карысьць беларуска-канадзкага і беларуска-амэрыканскага супрацоўніцтва і дружбы ды запэўніваюць Вам у гэтым сваю падтрымку.

*Таронта, Канада, 4 верасьня 1994 г.*

**Пленарны сход 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### КАНАДЫЙЦАЎ І АМЭРЫКАНЦАЎ БЕЛАРУСКАГА ПАХОДЖАНЬНЯ, УДЗЕЛЬНІКАЎ 21-Й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ, СКЛІКАНАЙ ЗГУРТАВАНЬНЕМ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ І БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІМ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕМ У ТАРОНТА Ў КАНАДЗЕ 3--5 ВЕРАСЬНЯ 1994 ГОДУ.

ДЗЕЛЯ ТАГО, што эканамічны і культурны прагрэс народу можа найлепш быць забясьпечаны ў дэмакратычнай і незалежнай дзяржаве, як пра гэта сьветчыць гісторыя заходняй цывілізацыі; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што незалежная і дэмакратычная дзяржава забясьпечвае аптымальныя ўмовы для сацыяльнага прагрэсу ды калектыўнага і індывідуальнага разьвіцьця ейных грамадзянаў; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што беларускі народ мае шматвекавую гісторыю, напоўненую ня толькі цяжкой працай, стратамі і пакутамі, але і значнымі дасягненьнямі; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што на працягу гэтага стагодзьдзя назіраецца ў беларускім народзе рост дамаганьняў незалежнасьці Беларусі, які выявіўся ў абвешчаньні незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г., Дэклярацыі дзяржаўнага сувэрэнітэту Беларускай ССР 27 ліпеня 1990 г. ды абвешчаньні 25 жніўня 1991 г. незалежнасьці Беларусі, якую замацавала прынятая 15 сакавіка 1994 г. Канстытуцыя рэспублікі Беларусь; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што дэмакратыя і незалежнасьць дзяржаваў становяць найлепшую гарантыю міру ды міжнароднага супрацоўніцтва ў дадзеным рэгіёне, --

ДЗЕЛЯ ЎСЯГО ГЭТАГА мы, канадыйцы і амэрыканцы беларускага паходжаньня, удзельнікі 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, урачыста пастанаўляем:

1. Падтрымліваць захады ўраду Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на ўзмацненьне дэмакратычных і рынкавых рэформаў і ўмацаваньне незалежнасьці беларускай дзяржавы.
2. Шукаць у канадзкім і амэрыканскім урадах падтрымкі для Беларусі ў справе дасягненьня ёю сувэрэнітэту, дэмакратыі і эканамічнае перабудовы, а таксама далейшага разьвіцьця дыпляматычных зносін з Канадаю і Злучанымі Штатамі.
3. У сувязі з надыходзячымі выбарамі ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і мясцовыя органы ўлады, узяць удзел у арганізаваньні міжнароднаганазіраньня за ходам выбараў.
4. Падтрымліваць намаганьні беларускага, а таксама канадзкага й амэрыканскага ўрадаў, каб зь Беларусі была вывезеная ядзерная зброя, зьліквідаваныя расейскія ваенныя базы ды замацаваная нэйтральнасьць Рэспублікі Беларусь.
5. Спрыяць адкрыцьцю ў Менску канадзкага і амэрыканскага бізнэсаўскіх цэнтраў з мэтай пашырэньня гандлю.
6. Шукаць тэхнічнае дапамогі для Беларусі, улучна з дапамогай ахвярам чарнобыльскай радыяцыі ды, у спалучэньні з гэтым, разьвіцьця ў Беларусі фармацэўтычнай вытворчасьці.
7. Працягваць стараньні ўвекавечыць памяць ахвяраў камуністычнага генацыду на Беларусі і за ейнымі межамі ў дачыненьні да жыхароў краіны, а таксама стварыць у Курапатах мэмарыяльны комплекс як сымбаль гэтага генацыду.
8. Пашыраць канадзка-беларускі і амэрыканска-беларускі абмен навукоўцамі і студэнтамі.
9. Прасіць Інфармацыйнае агенцтва ЗША ўключыць беларускую мову ў перадачы радыястанцыі "Голас Амэрыкі".
10. Падтрымліваць намаганьні ў справе пашырэньня ўжытку беларускае мовы ўва ўрадавых установах Беларусі, а таксама спрыяць вывучэньню беларускае мовы ў навучальных установах Захаду.
11. Спрыяць шырокаму ўжываньню нацыянальнае сымболікі -- бел-чырвона-белага сьцягу і знаку Пагоня -- у беларускім грамадзтве.
12. Вышукваць канадзкія і амэрыканскія крыніцы падручнікаў і іншых друкаваных матэрыялаў для пашырэньня ў бібліятэках і навучальных установах Беларусі.
13. Прасіць Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь стварыць магчымасьці рэгулярнага абмену пэрыядычнымні выданьнямі паміж Беларусьсю і краінамі, дзе жывуць беларусы.

## ЗАЯВА

### КАНАДЫЙЦАЎ І АМЭРЫКАНЦАЎ БЕЛАРУСКАГА ПАХОДЖАНЬНЯ, УДЗЕЛЬНІКАЎ 21-Й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ Ў ТАРОНТА Ў КАНАДЗЕ 4 ВЕРАСЬНЯ 1994 ГОДУ ПРА ПАЛІТЫЧНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ НА БЕЛАРУСІ.

Выбары прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь у чэрвені-ліпені 1994 году паказалі дзьве важныя прыкметы беларускай рэчаіснасьці. Першая прыкмета -- гэта тое, што дэмакратычныя выбары ў рэспубліцы магчымыя: што тая ўлада, якая не задавальняе спадзяваньняў народу, можа быць заменена новай уладай шляхам свабодных выбараў. І другая прыкмета: ідэя незалежнай дэмакратычнай Беларусі паступова пашыраецца ў беларускім грамадзтве, асабліва сярод інтэлігенцыі ды малодшага пакаленьня. Будучыня прамаўляе на карысьць дзяржаўнасьці.

Носьбітам і выказьнікам ідэі незалежнай дэмакратычнай Беларусі з самага пачатку гэтак званай перабудовы на Беларусі стаўся Беларускі Народны Фронт (БНФ). За час існаваньня Фронту, дзякуючы самаахвярнай дзейнасьці ягоных кіраўнікоў, актывістаў і прыхільнікаў, былі рэалізаваныя гэткія пастуляты нацыянальнага адраджэньня, як дзяржаўная незалежнасьць, дзяржаўны статус беларускае мовы, нацыянальная сымболіка, дэмакратычныя выбары. Дзейнасьць БНФ паспрыяла нараджэньню іншых дэмакратычных партыяў і рухаў, якія ўсё больш актыўна заяўляюць пра сябе. Але нацыянальнае адраджэньне адбываецца пакутліва, зь перашкодамі і ня ў поўнай меры. Камуністычная намэнклятура ды імпэрскія сілы зацята супрацівяцца станаўленьню беларускае дзяржаўнасьці, прыватнай уласнасьці і, арганічна спалучанае з прыватнай уласнасьцю, індывідуальнае свабоды і дэмакратыі. Супраціўнікі беларускага адраджэньня вядуць змаганьне ўсякімі сродкамі, у тым ліку й эканамічнымі -- у разьліку, што чым горш будзе стаяць эканоміка, тым больш бязвартаснай будзе выглядаць уваччу абываталя і ідэя беларускай дзяржаўнасьці. Нельга, аднак, спыняцца напоўдарогі. Жыцьцё паказала, што выстаўленыя рухам мэты нацыянальнага адраджэньня, якія яшчэ пару год таму здаваліся шмат каму недасягальнымі -- гэткія як незалежнасьць, дзяржаўнасьць беларускай мовы, бел-чырвона-белы сьцяг, Пагоня -- сталіся часткай сёньняшняй рэчаіснасьці. Таму й надалей выказьнікам найбольш адпаведнага для Беларусі палітычнага курсу застаюцца Беларускі Народны Фронт, створаны ім кааліцыйны ценявы ўрад ды іншыя дэмакратычныя партыі і рухі, якія трымаюцца прынцыпаў дзяржаўнасьці, рыначнай эканомікі ды мірнага сужыцьця ў Рэспубліцы Беларусь усіх нацыянальных групаў.

Удзельнікі 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі выказваюць спадзяваньне, што дэмакратычныя партыі і рухі на Беларусі цяпер, напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет, дацэняць важнасьць гістарычнага мамэнту і здолеюць згуртавацца ў адзіны дэмакратычны блёк, каб забясьпечыць кааліцыі дэмакратаў максымум месцаў у новым заканадаўчым органе.

Згуртаваньне Беларусаў Канады і Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне выказваюць сваю салідарнасьць зь Беларускім Народным Фронтам ды іншымі дэмакратычнымі партыямі і плынямі ў Беларусі і дэкляруюць усякае маральнае й міжнародна-палітычнае падтрыманьне намаганьням, скіраваным на тое, каб Беларускі народ змог выйсьці як мага хутчэй з эканамічнага і духовага крызісу.

**Пленарны сход 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.**

---

Антон СОКАЛ - КУТЫЛОЎСКІ

# МАЕ ЎСПАМІНЫ

## ЛЁС ЖЫЦЦЯ

Нас было чатырох афіцэраў палка, якія здружыліся і вольны час праводзілі сумесна. Не скажу, што ўсе чацвёра мелі аднолькавы погляд на жыццё, звычаі, павадкі. Не, мы хутчэй былі рознымі маладымі людзьмі. Рудамёткін, паручнік, паходзіў з багатае радзіны, сын купцамільянера, вучыўся ў маскоўскім універсітэце, прывык да бестурботнага, заможнага жыцця. Быў заўсёды вясёлы, жыццярадасны і вельмі шчыры сябра, меў 23 гады. Камандаваў 1-ю ротаю. Камандзір трэцяе роты штабс-капітан Дзёмін -- педагог. Скончыў Казанскі настаўніцкі інстытут, чалавек 28 гадоў, сталы, вытрыманы, спакойны, таксама добры таварыш. Трэці -- падпаручнік Верашчэцін. Зусім юнак дваццаці гадоў. Сын чыноўніка сярэдняй рукі. Толькі скончыў гімназыю, бестурботны, наіўны, праўдзівы і чэсны. Усім захапляўся і сярод нас знайшоў вопытных у жыцці таварышаў.

Надышоў 1917 год. Усе добра ведалі, што ўвесну або летам пачнуцца баі. Шмат будзе ахвяр. Безумоўна і сярод нас чатырох хтосьці будзе забіты. Але хто? Хутка парашылі загадаць. Сказана -- зроблена. Чатыры лісткі чыстай паперы. На адным я напісаў "смерць", скруціў лісткі ў трубачкі, перамяшаў і сказаў разбіраць. Памятаю, пры поўнай цішы без якіх-небудзь жартаў разабралі трубачкі паперы і разгарнулі. Лісток, на якім было слова "смерць", аказаўся ў паручніка Рудамёткіна. Тут мы адспявалі яму "вечную памяць" і моўчкі разышліся.

Здавалася, уся гэта наша выдумка на тым жарце і скончылася. Аж не, з таго дня як паручнік Рудамёткін выцягнуў лёс жыцця, перастаў быць нашым таварышам. Дзе падзеўся яго вясёлы характар? Ад таго дня ён пачаў ухіляцца ад нас. Цэлымі днямі хадзіў задуманы, нікуды ад сваіх салдат не адыходзіў. Рэдка з кім гаварыў. Болей любіў заставацца сам з сабою. Ну хіба хто яго падмяніў. Колькі ні стараліся мы яго развесяліць -- не памагала. Ужо ён ніколі болей не смяяўся.

Прайшла вясна, надышло лета. Сёмага ліпеня 1917 года пачалася артылерыйская падрыхтоўка да наступлення. Наш полк быў прызначаны на прарыў першае ўмацаванае лініі праціўніка. Рудамёткін, тады ўжо штабс-капітан, за пару гадзін да наступлення перадаў мне свае грошы, фотакарткі, лісты і іншыя паперы і прасіў пераслаць яго сястры ў Маскву. "А я буду сёння забіты", -- сказаў Рудамёткін, і то былі яго апошнія словы, якія я ад яго пачуў.

Пачаўся бой. Рудамёткін ішоў упоруч са мною. Разрыўная куля папала яму ў правы бок. Ён зваліўся зусім недалёка ад нямецкіх акопаў. Там і застаўся ляжаць. Нават нельга было вынесці з поля бою і пахаваць разам са сваімі. Не дарма мы тады адспявалі яму "вечную памяць", як бы прадчувалі, што ён не будзе пахаваны.

Яшчэ адзін выпадак.

Выбілі немцаў з пазіцыі і праследавалі. Еду каля свайго батальёна. Пад'язджае камандзір другой роты паручнік Судак. Малады, заўсёды вясёлы афіцэр. Едзем і размаўляем пра тое-сёе. Раптам паручнік Судак заметціў бліскучы прадмет на дарозе. Саскочыў з сядла, нагнуўся і падняў маленькі беленькі ключык. "Кажуць, ключ прыносіць шчасце". І з гэтымі словамі палажыў ключык у кішэню.

Праз дзве гадзіны паручнік Судак быў забіты.

**Працяг.**
**Пачатак у № 39.**

177

## 23. Першая сусветная вайна на Беларусі. Царскі перыяд.

У аўстра-сербскім канфлікце Расія падтрымала Сербію і распачала ўсеагульную мабілізацыю. Германія ў адказ стала на бок сваёй саюзніцы Аўстра-Венгрыі і 19 ліпеня 1914 года аб'явіла вайну царскаму ўраду. Так пачалася першая сусветная вайна, якая ахапіла 38 дзяржаў з насельніцтвам амаль 1 мільярд чалавек. Што яна магла прынесці беларускаму народу, акрамя гора... Беларускія дзеячы ставіліся да вайны па-рознаму. Адны былі абаронцамі, бо меркавалі, што перамога знітуе паднявольныя народы і ім будзе лягчэй потым перабудаваць імперыю на федэратыўных пачатках. Іншыя жадалі паражэння Расіі. На іх думку, гэта прывяло б да ўсенароднага паўстання супраць царызму. Але ці быў у гэтых разважаннях нейкі сэнс? І ці атрымаў царызм шанц цаной малой крыві ўмацаваць і пашырыць імперыю? І ці навучыла яго вайна чаму-небудзь?

### 23.1. Пад нямецкай акупацыяй

**ПЕРШЫ ГОД ВАЙНЫ.** Беларускія губерні знаходзіліся на ваенным становішчы. Усякае грамадска-палітычнае жыццё замерла. Запанаваў жорсткі ваенна-паліцэйскі рэжым. Дазваляліся толькі патрыятычныя маніфестацыі, малебны і сходы. Царскі ўрад разгарнуў шырокую

178

ідэалагічную кампанію пад сцягам абароны айчыны і цара. Квазіпатрыятызм ахапіў тады шмат каго і на Беларусі, не кажучы ўжо пра ўласна Расію. "Наша ніва" пазбягала гучных слоў пра вайну і, наколькі гэта было магчыма, гаварыла пра тыя бядоты, якія яна з сабою несла. І ўсё спраўджвалася. Тэрыторыя Беларусі знаходзілася ў непасрэднай блізкасці да польскага раёна баявых дзеянняў. Тут снавалі рускія войскі, а інтэнданты выцягвалі з мясцовых гараджан і вяскоўцаў усё, што маглі. Сяляне Беласточчыны і Гродзеншчыны першымі пачалі зганяцца на абарончыя работы.

**НАСТУПЛЕННЕ НЕМЦАЎ.** Летам 1915 года вайна перакінулася на беларускія землі. Жнівеньскае наступленне немцаў разгортвалася ў накірунку Коўна--Вільня--Мінск. 3-га верасня яны ўварваліся ў старадаўнюю сталіцу Літвы, а праз два тыдні кайзераўская кавалерыя перарэзала чыгуначную лінію Мінск--Масква ў раёне Смалявіч. І толькі цаной вялікіх намаганняў рускай арміі ўдалося спыніць немцаў і адкінуць іх у раён азёраў Свір і Нарач. Але германскае войска працягвала ўтрымліваць Заходнюю Беларусь.

**РАЗАРВАНАЯ БЕЛАРУСЬ.** У кастрычніку 1915 года нямецка-расійскі фронт стабілізаваўся па лініі Дзвінск--Браслаў--Паставы--Смаргонь--Баранавічы--Пінск. На працягу двух гадоў і пяці месяцаў (да лютага 1918 года) ён заставаўся нязменным і дзяліў Беларусь на дзве часткі. Тут канцэнтравалася звыш 1,5 мільёна рускіх салдат і афіцэраў і каля 1 мільёна нямецкіх. Іх трэба было карміць.

179

Лілася людская кроў, руйнаваўся дабрабыт гарадоў і вёсак. Зямля пакрывалася акопамі і ямамі, абцягвалася калючымі драцянымі загародкамі. Людзі ўпершыню зведалі жахі авіяцыйных налётаў, танкавых і газавых атак. Жахі вайны зведаў на Беларусі і вялікі рускі паэт Аляксандр Блок, які ваяваў у раёне Пінска.

**НАМЕРЫ ЗАХОПНІКАЎ.** Урадавыя колы нямецкага Рэйха (імперыі) не збіраліся разбураць Расійскую імперыю. Па яе неабсяжных прасторах маглі добра расцякацца вырабы германскай прамысловасці. Галоўным для Вільгельма II было эканамічна прывязаць Расію да Германіі. А таму тэрытарыяльныя дамаганні заваёўнікаў вызначаліся адноснай памяркоўнасцю. Яны спадзяваліся ўсяго толькі адсунуць рускіх ад сваіх усходніх межаў, а для таго стварыць буферную польскую дзяржаву ды анексіраваць Літву і Курляндыю. Беларусь разглядалася як гаспадарча і культурна адсталая частка Расіі са сваёй этнічнай спецыфікай.

**АКУПАЦЫЙНАЯ АДМІНІСТРАЦЫЯ.** Захопленыя Германіяй беларускія землі дзяліліся паміж вайсковым адміністрацыйным абшарам Обэр Ост, які быў створаны ўвосень 1915 года, і вайскова-аперацыйнай паласой, якая прылягала да нямецка-расійскіх акопаў. Усходняя мяжа Обэр Ост праходзіла прыкладна па лініі Браслаў--Ліда--Зэльва--Брэст. Яна супадала з тэрытарыяльнымі дамаганнямі немцаў да Расіі. Землі вайскова-аперацыйнай паласы ўрадавыя колы Рэйха збіраліся вярнуць рускаму цару за яго адказ ад прэтэнзій на астатнія акупіраваныя тэрыторыі. Вясной 1917 года ў склад Обер Оста

180

ўваходзілі Літва, Курляндыя і Беластоцка-Гродзенская акруга. На чале акупацыйнай адміністрацыі стаяў генерал Эрых Людэндорф. Ён падпарадкоўваўся камандуючаму Усходнім фронтам фельдмаршалу Паўлю фон Гіндэнбургу.

**АКУПАЦЫЙНАЯ ПАЛІТЫКА.** Улады Обэр Оста былі зацікаўлены ў захаванні ў прыфрантавой паласе стабільных эканамічных структур, якія працавалі б на патрэбы вайны. Таму ніякіх перашкод у гаспадарчай дзейнасці яны стараліся не чыніць. Больш таго, акупанты садзейнічалі забеспячэнню маёнткаў і прадпрыемстваў рабочай сілай. Шмат хто зведаў тады і нямецкіх шомпалаў. А мясцовыя землеўладальнікі і гандлёва-прамысловыя прадпрымальнікі адразу ж трапілі пад прэс ваенных падаткаў.

Акупацыйная адміністрацыя апынулася перад праблемай кіравання шматнацыянальным краем, дзе дамінавалі польская і нямецкая (у Курляндыі) культуры. Фарміраванне літоўскай літаратурнай мовы знаходзілася тады яшчэ ў пачатковай стадыі. Заставаліся цяжкасці і ў развіцці беларускай мовы і літаратуры. Для ўмацавання свайго становішча ў краі акупацыйныя ўлады прынялі за правіла аднолькава ставіцца да ўсіх нацый.

У адпаведнасці з загадам Гіндэнбурга (ліпень 1915) усялякая палітычная дзейнасць на акупіраваных тэрыторыях забаранялася. Немцы распусцілі нават Саюз беларускіх настаўнікаў. Права на функцыянаванне мелі толькі камітэты дапамогі ахвярам вайны, якія

Захар ШЫБЕКА

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ**

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

181

ствараліся яшчэ да акупацыі ва ўсёй прыфрантавой паласе расійскіх войск. Яны былі ўпаўнаважаныя прадстаўляць уладам прапановы ад кожнай нацыі ў сацыяльнай, асветнай і культурнай галінах. У снежні 1915 года Гіндэнбург выдаў дырэктывы, а ў студзені 1916 года інструкцыі, якія тычыліся арганізацыі школьніцтва. Нямецкія ўлады забаранялі навучанне па-руску і ўводзілі ў пачатковых школах абавязковае выкладанне на роднай мове для ўсіх карэнных нацый Обэр Оста. Такі ж парадак захоўваўся і пры вывучэнні рэлігіі. Вывучэнне нямецкай мовы таксама было абавязковым. Але ніхто не прымушаў бацькоў адпраўляць сваіх дзяцей у школы, калі яны лічылі, што мова выкладання непрымальная для іх. Усім нацыянальнасцям Обэр Оста дазвалялася культурная дзейнасць і выданне газет на бацькоўскай мове.

**БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА І ЯЕ МЕЖЫ.** Такія шырокія правы беларусы атрымалі ўпершыню. Улады Расіі, як вядома, не падтрымлівалі адкрыццё беларускіх школ. І гэта не маглі не выкарыстаць беларускія дзеячы дзеля нацыянальнага абуджэння. Але ва ўмовах вайны і нямецкія льготы ажыццявіць было цяжка. Не хапала нацыянальнай інтэлігенцыі. Народ пакутаваў ад рэквізіцый, прымусовай працы на ваенных збудаваннях. Было не да адукацыі. Ды і акупацыйныя ўлады больш займаліся рабаваннем беларускіх земляў, чым культурным узвышэннем яе жыхароў. Асабліва гэта тычылася вайскова-аперацыйнай паласы, насельніцтва якой увогуле ніякіх правоў ад немцаў не атрымала. А таму адзіным больш-менш значным ast-

182

раўком беларускай культуры пад нямецкай акупацыяй стала Вільня. Яшчэ ў лістападзе 1915 года тут адкрылася першая ў гісторыі беларуская публічная школа. Першая таму, што дагэтуль навучанне на беларускай мове вялося патаемна.

У той жа перыяд намаганнямі польскай інтэлігенцыі ў Вільні былі адкрыты 4 польскія гімназіі, 8 прагімназій і 30 пачатковых школ. Акрамя таго, сотні польскіх школ узнікалі ў правінцыі. Яны прызначаліся, між іншым, і для беларускіх дзетак. Перавага палякаў у інтэлектуальных і матэрыяльных сілах з непазбежнасцю вяла да паланізацыі беларусаў ва ўмовах, калі рускае супрацьстаянне здымалася. Культурна-асветная беларуская праца магла паспяхова разгортвацца толькі пры падтрымцы акупацыйных улад.

Колькі намаганняў паклалі нешматлікія беларускія дзеячы, каб давесці да кіраўніцтва Обэр Остам, што за плячыма беларускага народа багатая гісторыя і культура і што ён у аднолькавай меры з іншымі народамі мае права на незалежнасць... Прызнанне немцамі нацыянальнай адметнасці беларусаў у рэшце рэшт адбылося, і іх адраджэнскі рух адразу ж ажывіўся.

**ВІЛЕНСКІ ЦЭНТР АДРАДЖЭННЯ.** Беларускі камітэт дапамогі ахвярам вайны ў старадаўняй сталіцы Літвы пачаў дзейнічаць яшчэ з сакавіка 1915 года пад старшынствам Вацлава Іваноўскага. З прыходам жа немцаў камітэт узначальваў Антон Луцкевіч, бо Іваноўскі эвакуіраваўся ў глыб Расіі. Новы старшыня згуртаваў вакол сябе амаль усіх беларускіх дзеячаў,

183

што засталіся пад нямецкай акупацыяй. Сярод іх вылучаліся Францішак Аляхновіч, Алаіза Пашкевіч-Кейрыс (Цётка), Вацлаў Ластоўскі, Іван Луцкевіч. Але працаўнікоў не хапала. Ужо ў снежні 1915 года камітэт арганізаваў у Вільні настаўніцкія курсы, дзе выкладаў Іван Луцкевіч.

15 лютага 1916 года ў Вільні пад рэдакцыяй В.Ластоўскага пачала выходзіць беларуская газета "Гоман", якая праіснавала да канца 1918 года. З лета 1916 года ў Вільні працаваў Беларускі клуб, у рамках якога арганізаваўся аматарскі тэатр. Тут жа, у Вільні, адкрыліся беларуская бібліятэка, навуковае таварыства, кааператыўнае аб'яднанне "Раніца", дзіцячы прытулак "Золак", выдаваліся падручнікі і школьная літаратура.

**ШКОЛЬНІЦТВА.** Найважнейшай праблемай быў недахоп настаўнікаў, якіх мабілізавалі ці эвакуіравалі ў Расію. І нямецкая адміністрацыя пайшла на адкрыццё беларускай настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы, што на Гродзеншчыне. Доўга шукалі выкладчыкаў. Тут нават часова працаваў прафесар Рудольф Абіхт з Вроцлаўскага універсітэта. Семінарыя адкрылася толькі 15 кастрычніка і працавала да 15 лістапада 1916 года. За гэты час яна падрыхтавала 144 настаўнікі беларускіх школ. У кастрычніку 1916 года такіх школ налічвалася на тэрыторыі Обэр Оста ўсяго 8, а пад канец нямецкай акупацыі -- 89. Большасць іх месцілася ў Беластоцка-Гродзенскай акрузе. Намаганні нямецкіх улад пашырыць сетку беларускіх школ сустракалі рашучае супраціўленне большасці ксяндзоў, асабліва ў каталіцкіх асярод-

184

ках, дзе ўсе беларусы каталіцкага веравызнання традыцыйна лічыліся палякамі. У паводзінах кліру знаходзіла адлюстраванне імкненне палітычных груповак Польшчы да федэралізацыі або анексіі беларускіх земляў. У аперацыйнай вайсковай паласе беларускі рух немцамі бадай што не падтрымліваўся, але і тут да канца 1918 года ўзнікла каля 60 беларускіх школ. Значыць, усяго іх пад нямецкай акупацыяй адкрылася каля 150.

**ПРАБЛЕМА ПАЛІТЫЧНАГА САМАВЫЗНАЧЭННЯ.** Германская акупацыйная палітыка не давала падстаў для надзеі на стварэнне асобнай беларускай дзяржаўнасці з дапамогай немцаў. Яны абмяжоўвалі беларусаў культурна-асветнымі справамі. Але ўжо ў 1915 годзе ў Вільні ўтварыўся агульнанацыянальны канспіратыўны орган --Беларускі Народны Камітэт, які займаўся не толькі культурнымі, але і палітычнымі пытаннямі беларускага руху. Членамі яго былі браты Луцкевічы, браты Станкевічы, паэтэса Канстанцыя Буйло, пісьменнік Максім Гарэцкі. Група сацыялістычнай арыентацыі на чале з братамі Луцкевічамі звярнулася да ідэі не ўзнаўлення, а стварэння новага Вялікага Княства Літоўскага, дзе беларускія і літоўскія землі злучаліся б па прынцыпу аўтаноміі і мелі б свой сойм у Вільні. Беларуская палітычная ініцыятыва знайшла падтрымку ў шырокай грамадскасці. Для ажыццяўлення пастаўленай мэты ў снежні 1915 года была ўтворана Канфедэрацыя Вялікага Княства Літоўскага з прадстаўнікоў адпаведных арганізацый беларусаў, літоўцаў, палякаў і яўрэяў.

Генадзь БУРАЎКІН

# З КНІГІ "УЗМАХ КРЫЛА"

* * *

Так ужо заведзена спрадвеку --
Можа, прымха,
Можа, Божы знак --
Толькі на Радзіме чалавеку
Ходзіцца і дыхаецца ўсмак.

І заўжды здаецца нават зверу
Найцяплейшай родная зямля.
Гэта ўсё я на сабе праверыў,
Даўшы па планеце кругаля.

Не прыжыўся я за акіянам,
Не прыняў замежны той рэжым.
Як прыехаў я туды нязваным,
Так і з'ехаў я адтуль чужым.

Лёгка збыў красу чужую тую
І пяшчотна да душы тулю
Ціхую, змарнелую матулю --
Родную, зняўбытую зямлю.

* * *

Я ведаю,
Мне дома будзе горш.
Я ведаю,
Мне дома будзе горка.
Але ірвуся з сытага Нью-Ёрка
У Мінск,
Дзе гастраноміі -- на грош.

Зманю,
Калі скажу:
Не ўспомню больш
Кавярні з вострым водарам цытрыны,
Напоўненыя рэчамі вітрыны,
Імклівыя бясшумныя машыны,
Цэнтральны парк,
Начны Брадвей...
І ўсё ж...

Ні вараждбіт,
Ні мудры экстрасенс
У тым не знойдуць логікі асновы,
Што так імкнуся ў бедны кут сасновы,
Пакінуўшы ўбаку разумны сэнс.

І мне ўжо ні пасада,
Ні багацце
Не перашкодзяць кінуцца туды,
Дзе ля парога --
Шэры цень бяды,
Дзе нівы засыхаюць без вады
І з ростані мяне чакае маці...

Што тут паробіш,
Калі ўсе гады
Я нёс,
Нібы праклянцце і закляцце,
Упартую адданасць роднай хаце
І ўдзячнасць краю,
Дзе жылі дзяды.

* * *

У брудным Брукліне ў Нью-Ёрку,
Дзе доля горкая жыве,
Я чую наскую гаворку
І мову родную ў царкве.

У кожным гуку так дарэчы
Сярод глухіх чужых муроў
Лаўлю я ўсплеск палескіх рэчак
І гоман полацкіх бароў.

Ашчадна захавалі ўсё-ткі
Жывое слова землякі,
Браслаўскія сівыя цёткі,
Мажныя слуцкія дзядзькі.

Звязала мова ім
Набыткі
І сцежкі ўсе ў клубку гадоў,
Як тая суравая нітка,
Што лучыць з кроснамі дзядоў.

Ці не таму так лёгка
Сэрца,
Ледзь толькі памяць запалі,
На ласку Бога адгукнецца
І песню з матчынай зямлі!..

А я стаяў між малітоўцаў
І зразумець ніяк не мог,
Чаму па-нашаму ні слоўца
У Мінску не гаворыць Бог!..

* * *

Што ж гэта такое
З Радзімай адбываецца! --
Песні не спяваюцца.
Вершы не складаюцца.

Душы недапужныя
Не здалелі выстаяць --
Пад вятрамі сцюжнымі
Да астатку выстылі,
Хоць і не апальныя,
Хоць і не галодныя,
На чужыну дальнюю
Рвуцца, як бязродныя.

А за акіянам
Ласка невялікая
Для гасцей нязваных,
Сваякоў няклікаых,
І сумленне ж мучае,
Што так лёгка кінулі
І бацькоў засмучаных,
І садкі з калінамі...
Покуль гэта ўцяміцца,

Покуль песня вернецца,
Колькі дум запляміцца,
Колькі душ зняверыцца!

Горка,
Як дзяціна
Ад хаты адбіваецца...

Што ж гэта з Радзімай
І з намі адбываецца!..

* * *

Цяжкі застой на Беларусі
Каторы год.
І разважаюць людзі:
Мусіць,
Такі народ.

Чужым і ўласным дармаедам
Глядзіць у рот
І паслухмяна крочыць следам --
Такі народ.

Як ні гукай адчайна:
-- Людцы!
Ганіце зброд!
Яны ў адказ адно смяюцца.
Такі народ.

Не хочуць мець парадак новы.
Наадварот,
Гатовы жыць без роднай мовы.
Такі народ.

Хаця прывык да ўсякай працы,
Шукае брод,
Каб не дай бог не вытыркацца.
Такі народ.

Трываць дурныя кпіны будзе
І недарод...

Няўжо і праўду кажуць людзі --
Такі народ!..

* * *

Гартае восень жоўтыя лісты --
Старую кнігу вечных успамінаў
Пра беззваротны век свой залаты,
Дзе доўгі спіс сакрэтаў і правінаў.

Лагода ціха селіцца ў душы,
Але, з былым сустрэўшыся, няйначай,
То светла заўсміхаецца ў цішы,
То ачышчальна ўпотайкі заплача.

Прылёг свавольны вецер на мяжы,
Дзе колецца іржэўнік цёплай шчэццю,
Дзе вісніць зоркі выспелых ажын
І павуцінне серабрыста тчэцца.

А цень лясоў ужо хавае стынь.
З лагчын плыве туман сівы і рэдкі.
Сціхае смех.
І ападаюць кветкі...

Гартае восень жоўтыя лісты...

### МАЛІТВА

Мы здалёку ўбачылі свабоду
І яшчэ не вырваліся з пут...
Божа,
Не дабаў майму народу
Пошасці,
Няпраўды
І пакут.

У чужым нялюдскім землятрусе
Хіба ў нечым мелі мы віну!..
Божа,
Адвядзі ад Беларусі
Здраду,
Вераломства
І вайну.

Смутнаю парою нелюдзімай,
Калі ўсё вакол ідзе на злом,
Божа,
Захіні маю Радзіму
Мудрасцю,
Спакоем
І цяплом!

*Вершы Генадзя Бураўкіна з кнігі "Узмах крыла", апублікаваныя ў адной з летніх кніжак часопіса "Полымя", хвалююць сваёй шчырасцю, трапяткім пачуццём любові да сваёй Бацькаўшчыны, трывогай за яе лёс. Напісаны яны пасля некалькіх гадоў жыцця паэта ў Амерыцы, дзе ён як афіцыйная асоба прадстаўляў Беларусь. У адным з бліжэйшых нумароў мы змесцім інтэрв'ю Генадзя Бураўкіна газеце "Голас Радзімы".*



## ТАЛЕНТЫ НАРОДНЫЯ

Вёска Ляды Дубровенскага раёна -- ускраіна Беларусі. Адразу за ракой ужо Расія, Смаленская вобласць. Жывуць у гэтай вёсачцы выдатныя людзі -- працаўнікі, якія змаглі данесці традыцыі сваіх продкаў да нашых дзён. Адзін з іх -- народны майстар Міхаіл Шэкін. Не знойдзеш двара ў вёсцы, у якім не было б вырабаў, спрацаваных рукамі Міхаіла Васільевіча. Шэкін -- патомны ганчар, дарэчы, адзіны ў акрузе. Калі пакупнік просіць падабраць добры збан ці гаршчок, майстар, пастукаўшы пальцамі па свайму твору, з сілай кідае яго аб зямлю. Здаецца, што гэты на выгляд крохкі гаршчок разляціцца на кавалачкі. Аднак, падскокнуўшы, ён коціцца па траве. Цяпер у пакупніка ўжо няма ніякіх сумненняў наконт якасці тавара. Відаць, так прадаваў сваю прадукцыю і бацька Шэкіна, у якога і навучыўся старадаўняму майстэрству Міхаіл Васільевіч.

Ёсць у Лядах і яшчэ адна славутасць -- фальклорная група. Ужо немаладыя жанчыны спяваюць песні сваіх продкаў. Даматканыя касцюмы яны вырабілі сваімі рукамі, таксама ў духу народных традыцый свайго краю.

Аляксандр ТАЛОЧКА.

НА ЗДЫМКАХ: ганчар Міхаіл ШЭКІН; на сцэне -- фальклорная група з вёскі Ляды.

Фота аўтара.




## "ЭФЕКТ САДОЎСКАГА"

Не адно дзесяцігоддзе мы раслі і выхоўваліся ў перакананасці, што выдатныя дзеячы, вучоныя з сусветным імем нараджаліся зусім не на Беларусі, а ў іншых краінах...

У выдавецтве "Навука і тэхніка" ў серыі "Нашы славутыя землякі" выйшла кніга Таццяны Процькі "Даследчык таямніцаў святла". У ёй аўтар папулярна расказвае пра выдатнага вучонага Аляксандра Садоўскага, які быў родам з Віцебска (між іншым, нарадзіўся Аляксандр Іванавіч 24 лістапада 1859 года, так што неўзабаве можна адзначыць чарговы юбілей).

У 1894 годзе А. Садоўскі, а тады ён працаваў выкладчыкам Юр'еўскага універсітэта, выказаў меркаванне, што існуе так званае абарачальнае ўздзеянне светлавой хвалі. У 1897 годзе гэтыя меркаванні былі пацверджаны і тэарэтычна. Так увайшоў ва ўжытак навуковы тэрмін "эфект Садоўскага". Праўда, праз дзесяць гадоў пра гэтае адкрыццё забыліся. Справядлівасць перамагла толькі ў 1911 годзе, калі ў абарону А. Садоўскага выступіў вядомы фізік П. Эрэнфэст. А ў снежні 1917 года А. Садоўскаму без публічнай абароны дысертацыі прысвоілі ганаровае званне доктара фізікі.

Аднак і гэтае прызнанне не вельмі паўплывала на далейшы лёс нашага земляка. У 1918 годзе А. Садоўскі вымушаны быў эмігрыраваць, апынуўся ў Празе, дзе і памёр 26 снежня 1923 года. А паколькі быў эмігрантам, дык да нядаўняга часу пра яго не шмат і пісалі. Асабліва пра пражскі перыяд жыцця.

Таццяна Процька, выкарыстаўшы матэрыялы Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Беларусі, архіваў Масквы, Санкт-Пецярбурга, Эстоніі, прасочвае жыццёвы і навуковы шлях гэтага выдатнага чалавека, якім можам ганарыцца мы, беларусы.

# "ПРЫЙДЗЕ МОЙ ДЗЕНЬ..."



( Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Да 1973 года Л.Случанін жыў у Варкуце, куды да яго прыехала жонка з дачкой (у памяць аб першай, загінуўшай падчас вайны, другая дачка была таксама названа Ларысай). Цяпер Лявон Случанін жыве ў Салігорску, па-ранейшаму піша вершы. Асмельваюцца іх друкаваць толькі мясцовая газета "Калійшчык Салігорска", эміграцкая "Беларуская думка", якая выдаецца ў Амерыцы, а паэма "Рагнеда" была выдадзена беларусамі ў Аўстраліі. Праўда, некалькі вершаў надрукаваў "Голас Радзімы" яшчэ ў 70-я гады (рэдактарам тады быў Л.Прокша), і на пачатку 90-х паэма "Рагнеда" была надрукавана ў "Спадчыне", а некаторыя вершы -- у "Полымі". Ужо некалькі гадоў ляжыць у выдавецтве зборнік вершаў Лявона Случаніна, але цяпер, відаць, не да вершаў да гэтага часу не рэабілітаванага беларускага паэта.

Збіраючы скупыя біяграфічныя звесткі пра Лявона Случаніна для Бібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў (выданне Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АНБ), я пазнаёмілася з іх справай у архівах КДБ Беларусі (дзе працавалі многія супрацоўнікі Інстытута літаратуры і гісторыі, вяртаючы імёны і спадчыну бязвінна загубленых дзеячаў культуры ў гады сталінскіх рэпрэсій). Аказваецца, як вынікае з пратаколаў допыту паэта ў 1945 годзе, галоўная яго віна, што яго творчасць была цалкам скіравана на беларускае нацыянальнае адраджэнне, а для таго часу гэта сапраўдная "контррэвалюцыя" і "нацдэмаўшчына". Вось ужо сапраўды: "Чужыя людзі ловяць песню, каб у вастрог яе загнаць" (Р.Крушына). А песня паэта гучала ў зборніку "Песняры Случчыны" (1943), куды ўвайшлі такія вершы Л.Случаніна, як "Кліч Беларуса", "Ахвярам Вінніцы", "Адказ ворагам", "Песня жаўнера", "Есць і нам чым ганарыцца", якія кваліфікаваліся ў пратаколах НКУС адкрыта "антысаветчынай". На самай справе гэтыя вершы і сёння не страцілі свайго вастранадзённага гучання. Паэт, амаль на паўстагоддзя апярэджваючы свой час, заклікаў беларускі народ змагацца за нацыянальную незалежнасць, не цурацца нацыянальных сімвалаў, ведаць сваю гісторыю, ён не мог змірыцца, "калі лічылі смеццем нашу мову", "калі гаротны, ціхі беларус служыў для вас за дойную карову". Л.Случанін, думаючы, разважаючы пра лёс Беларусі, прыходзіў да высновы, што "ні паляк і ні маскаль" нам не дапамогуць, "будзем мы самі сябе ратаваць, самі сабе й гаспадарыць". Ужо тады ён пісаў пра незлічоныя ахвяры сталінскага рэжыму ("Ахвярам Вінніцы"), калі "людзей нявінных тысячамі гналі, калі такім жыццём сабачым яшчэ не жыў пад сонцам чалавек" ("Тодару Лебядзе"), пра метады працы НКУС і "драпежнага ЧК", калі "запаўнялася магіла за магілай святымі целамі расстрэляных людзей". Паэт даказваў у сваіх вершах, што ёсць і нам чым ганарыцца, несці ў свет славу Беларусі, што і мы можам "у сям'ю Эўропы ўліцца, будаваць уласны дом", "працаваць і не баяцца бальшавіцкае асы", не саромецца называцца беларусамі. Вершы Л.Случаніна незвычайна сугучныя нашаму часу, ідэям адраджэння Беларусі:

**"Годзе крыўду цярпець!**
**Прэч пакуты і здзекі!**
**Веру -- збудуцца нашыя мары!**
**Памятай, беларус, што і ты**
**чалавек,**
**Які можа сабой гаспадарыць!**

**Нашы скарбы вякамі**
**цягалі ад нас,**
**Нашу радасць у гразь**
**утапталі,**
**У вялікі паход клічуць**
**праўда і час,**
**Клічуць слаўнай**
**мінуўшчыны далі..."**

Недаравальна, што так запознена вяртаецца да нас творчасць таленавітага паэта, якая павінна заняць адпаведнае месца ў сучасным літаратурным працэсе. Нядаўна Л.Случанін скончыў пісаць вершаваны раман "Алесь Няміра". Мясцовая салігорская газета, якая ўпершыню апублікавала гэты твор, адзначала: "Над раманам "Алесь Няміра" Л.Шпакоўскі-Случанін працаваў 25 гадоў. Гэта твор пра чалавека, жыццё якога было скалечана жорсткай сталінскай сістэмай. Лёс Алеся Няміры шмат у чым пераклікаецца з лёсам самога аўтара... Многія старонкі гэтага твора напісаны, як нам здаецца, на класічным узроўні..." Грунтоўны аналіз і ацэнка творчасці Л.Случаніна яшчэ наперадзе. Але ці не залішне доўга наша сістэма выпрабоўвае чалавека на трываласць?

**Дарагія мае, няўжо**
**Не асілю нявoлі садому!..**
**Ногі скурчыць, дык я вужом**
**Дапаўзу ў крыві дадому.**
**Рук не стане -- праб'ю чалом**
**Камяніцу турмы навылет.**
**Толькі б сесці за вашым**
**сталом**
**І душу вам пакутную выліць!**

Падобна, што і да гэтага часу паэт ніяк не "праб'е камяніцу турмы". Калі я спытала ў Лявона Раманавіча, чаму столькі гадоў ён не дабіваўся рэабілітацыі, ён адказаў, што не адчувае ніякай віны перад радзімай і сваім народам. І ўсё ж, паехаўшы ў Салігорск другі раз, каб прадставіць паэта мясцовай грамадскасці, мы разам з Ганнай Сурмач (старшыня Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына") і настаўніцай беларускай мовы салігорскай школы Марыяй Мацюкевіч угаварылі Лявона Раманавіча падаць прашэнне аб рэабілітацыі. Але яму адмовілі. Больш таго, ад "імя ветэранаў" быў надрукаваны артыкул у "Мінскай праўдзе" пад вельмі шматзначным загалоўкам: "Забыць ці дараваць?", дзе аўтар (нехта Быхэня) ставіў пытанне -- дараваць паэту яго "віну" ці забыць пра яе? У абарону Л.Случаніна выступіў вядомы наш паэт, які сам быў рэпрэсіраваны, -- Сяргей Грахоўскі.Ён параўнаў гэты артыкул з даносамі 1937 года, бо цяпер, працуючы ў камісіі па рэабілітацыі ахвяр сталінскіх рэпрэсій, вымушаны змагацца за добрае імя кожнага чалавека. Сяргей Іванавіч паслаў некалькі лістоў Лявону Раманавічу, якога ведаў яшчэ з 30-х гадоў. Я, трапіўшы на прыём да пракурора, у якога знаходзілася справа Л.Р.Шпакоўскага-Случаніна, задала пытанне: "Па якіх матывах паэту адмоўлена ў рэабілітацыі?" Асноўная прычына была ў тым, як мне патлумачылі, што Л.Случанін з лютага па чэрвень 1944 года рэдагаваў "Газэту Случчыны", якая выходзіла на акупіраванай тэрыторыі Беларусі з дазволу нямецкіх акупацыйных уладаў.

Вядома ж, лёсы рэпрэсіраваных і эміграцкіх пісьменнікаў -- яшчэ маладаследаваная старонка гісторыі нашай літаратуры. Л.Случанін, калі і быў у нечым вінаваты перад радзімай, даўно адпакутаваў сваё, хаця савецкая ўлада да гэтага часу не даравала яму -- яна асудзіла паэта пажыццёва.

У мінулым годзе Л.Случанін быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Пісьменніцкі білет яму ўручылі праз 52 гады пасля таго, як малады паэт быў запрошаны якраз напярэдадні вайны ў Саюз пісьменнікаў з нагоды абмеркавання яго творчасці і прыёму ў саюз. І паміж гэтымі датамі -- доўгі, пакручасты і драматычны лёс чалавека, паэта, які і ў сваю позняю восень жыве верай:

**"Зашумяць, запяюць у**
**акордзе мядзяныя**
**хвалі калосся,**
**пахінуцца зялёнай сцяной,**
**загалосяць вяршаліны дрэў,**
**туманамі заплача**
**над жоўтымі пожнямі**
**восень...**
**Лебядзінаю песняю людзі**
**ахрысцяць мой спеў!"**

**Лідзія САВІК.**




## БЕЛАРУСКІ ДРУК У АМЕРЫЦЫ

# ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ "ВЕДЫ"

Пошукі гэтых вытокаў і ачышчэнне беларускай мовы ад чужых дэструктыўных уплываў занялі важнае месца ў часопісе "Веда", у манаграфіях, нарысах і лексікаграфічных даследаваннях Яна Станкевіча. Пазней у "Беларуска-расійскім слоўніку" ён так сфармуляваў свой прынцып рэстаўрацыі аўтэнтычнай мовы крывічоў (ліцьвіноў, беларусаў): "Вывучаючы беларускую мову, я пераканаўся, што калі ў народнай мове не прымаць пад увагу непатрэбныя варварызмы (...), а таксама адкінуць варварызмы з мовы літаратурнай, тады нашая народная і літаратурная мова будуць амаль аднолькавымі. Розніца паміж імі будзе толькі ў навуковай тэрміналогіі, якой няма ў народнай мове".

З першага нумара (1951, студзень) рэдактар "Веды" пачаў абгрунтоўваць крывіцкую канцэпцыю беларускай гісторыі і культуры. Тады яму ўяўлялася, што толькі крывічы, а пазней ліцьвіны -- сапраўдная назва нашага народа, а этнонім "беларусы" навязаны Маскоўшчынай. У тым жа нумары надрукавана малавядомае даследаванне Я. Станкевіча "Крывіччына ў "Толковом словаре живого великороссийского языка" У. Даля". На падставе грунтоўнага лексікаграфічнага і граматычнага аналізу гэтага шматтомнага слоўніка даследчык прыйшоў да высновы, што У. Даль занатаваў не толькі велікарускую, але і ў значнай ступені беларускую ("западнорусскую", паводле Даля, "крывіцкую", паводле Я. Станкевіча) народную гаворку, межы якой, на ягоную думку, праходзяць далёка ў глыбіню сучаснай Расіі і паўночнай Украіны, ахопліваючы Пскоўскую, частку Калужскай, Цвярской і інш. губерняў, а таксама Севярскую зямлю.

У часопісе "Веда" Ян Станкевіч апублікаваў свой "Кароткі начырк гісторыі Крывіч-Беларусі" (1951). Першай ягонай манаграфіяй на гэтую тэму была "Крыўя -- Беларусь у мінуласці" (1942). Там ён, бадай што, першым абгрунтаваў балта-славянскую тэорыю паходжання беларусаў, прыярытэт якой пазней памылкова аддадзены маскоўскім археолагам (В. Сядову і ягонай школе).

"Беларусы паўсталі, -- пісаў Ян Станкевіч, -- із зліцьця часці славян і часці балтаў... Менавіта зліццё настала яшчэ ў пору прагістарычную. Пазней, на ваччу гісторыі, гэты працэс да некаторай меры паўтарыўся, калі ўліліся ў беларускі народ яшчэ два плямёны балцкія -- голядзь на ўсходзе і ятвягі на заходзе" (С. 3-4). У нарысах, апублікаваных у часопісе "Веда", ён пашырыў сваю аргументацыю гэтай гіпотэзы на аснове археалагічных і лінгвістычных фактаў, якія засведчылі, што да славянскага засялення цяперашняй Беларусі, на "старакрыўскіх" землях Севершчыны, Смаленшчыны, расійскай Цвершчыны аж да ракі Акі жылі балцкія плямёны: іх гарадзішчамі запоўнена ўся гэтая прастора.

Адчувальна паўплываўшы на антрапалагічны беларускі тып і ягоны менталітэт, а ўскосным чынам -- на гістарычны лёс беларусаў, балцкі субстрат, на думку Станкевіча, значна слабей сказаўся на мове нашай, у сваёй аснове -- славянскай. Сёняшняга чытача, відавочна, зацікавіць этнапсіхалагічная і культурна-тыпалагічная характарыстыка беларусаў у творах Яна Станкевіча. "Не адно сваім паходжаннем, -- зазначыў даследчык, -- але таксама характарам свае культуры і сваімі культурнымі сувязямі крывічы гэтага перыяду (XIII--XYI стагоддзі. -- **У.К.**) належаць да культурнае сферы заходнееўрапейскае (...) Між іншым, адначасна, як на Захадзе, у крывічох вытварыўся свой рыцарскі стан, што адзначыўся тымі ж цнотамі, што і рыцарства заходнееўрапейскае, значыцца, адвагаю, пачуццём чэсці (гонару. -- **У.К.**), набожнасцю, вернасцю дадзенаму слову, пачуццём дастаенства" ("Веда", 1951, люты-сакавік. С. 46).

Славяна-балцкі этнагенез крывічоў-беларусаў, адзначыў Я.Станкевіч, сфармаваў не толькі антрапалагічны, але і этнапсіхічны беларускі тып: "Беларус кемлівы, быстры, борзда арыентуецца, вельмі здольны да высшых перажываньняў душэўных; ён лёгка працьнаецца абстрактнымі ідэямі, лёгка захапляецца паэзіяй і мастацтвам, ён наогул даволі пачуцьцёвы і не матэрыяліст, -- гэта ўсё рысы славянскія. А, з другога боку, натура беларуса глыбокая, трывалая, уздзержлівая, ён станоўкі, упорысты і вельмі адпорны на ўсякі націск, даволі скрытны, не лёгка праяўляецца (трэба з беларусам доўга пажыць, каб яго пазнаць). Гэта рысы тыпу балцкага (...) З гледзішча паляка беларус спакойны і маўклівы, а з гледзішча ліцьвіна ён рухлівы і гаваркі" ("Крыўя-Беларусь у мінуласці". С. 4).

Ян Станкевіч яшчэ ў 1942 годзе прыйшоў да высновы, што Вялікае Княства Літоўскае стварылі крывічы і першым аб'ядначым цэнтрам стаў Навагарадак: у другой палове XIII стагоддзя навагардскія князі Міндоўг і ягоны сын Войшалк аб'ядналі Полацкае, Віцебскае, Смаленскае, Пінскае і іншыя крывіцка-дрыгавіцкія землі, зававалі Літву этнаграфічную (Аўкштоту і Жмудзь), Падляшша (Берасцейскую і Мельніцкую землі).

Урэшце, аўтар "крывіцкай тэорыі" беларускай гісторыі ў гэтых і пазнейшых нарысах абараняў восем тэзісаў беларускай дзяржаўнасці Вялікага Княства Літоўскага -- незалежна ад этымалогіі слова Літва: 1. Гэтая дзяржава ўзнікла "на зямлі крывіцкай і першай сталіцай ягонай ёсць крывіцкае места Ноўгарадак". 2. Наступная сталіца Вільня была таксама крывіцкім горадам з усіх магчымых пунктаў гледжання. 3. Герб Вялікага Княства Літоўскага -- коннік, што гоніцца за ворагам, -- полацкага паходжання. 4. Ва ўсім княстве, у тым ліку ў Аўкштоце і Жмудзі, карысталіся крывіцкай адміністрацыйнай і фінансавай тэрміналогіяй. 5. Палітыка Вялікага Княства ад яго ўзнікнення да захопу Расіяй у канцы XYIII стагоддзя адпавядала інтарэсам крывіцкага (беларускага) народа. 6. Крывіцкая мова і культура была агульнадзяржаўнай незалежна ад этнічных асаблівасцяў асобных рэгіёнаў гэтай дзяржавы. 7. Крывіцкае звычаёвае права было асноўнай крывіцкай агульнадзяржаўнага права. 8. Усе крывічы-беларусы лічылі Вялікае Княства Літоўскае сваёй дзяржавай.

У галіне ваенна-палітычнай гісторыі Беларусі заслуга Яна Станкевіча бясспрэчная: ён быў сярод першых, хто даказаў недасведчанасць альбо тэндэнцыйнасць расійскай, польскай і наогул еўрапейскай гістарыяграфіі, паводле якой Рэч Паспалітая пасля Люблінскай уніі -- быццам бы унітарная польская дзяржава, а не канфедэрацыя Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага. Канкрэтна ён бадай што першым убачыў у паўстаннях 1831-га, 1848-га і 1863 гадоў не толькі польскі, але і беларускі ("вялікалітоўскі") нацыянальна-вызваленчы рух.

**Уладзімір КОНАН.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 38, 39.**

# ГІСТОРЫЯ НА ДАЛОНІ

Сярод людзей, якія займаюцца калекцыяніраваннем, нямала тых, хто захапляецца збіраннем памятных медалёў. Памятныя настольныя медалі -- гэта своеасаблівыя экспанаты, што расказваюць аб нейкай гістарычнай падзеі ці асобе. Ствараючы гэтыя мініяцюрныя помнікі, людзі з даўніх часоў імкнуліся ўвекавечыць найбольш знамянальныя для іх падзеі. Медалі вырабляюцца звычайна з даўгавечных матэрыялаў, найчасцей з металаў. Апошнім часам для медалёў сталі выкарыстоўваць кераміку, фарфор, шкло, пластмасу. Форма іх звычайна круглая, радзей прамавугольная, аднак сустракаюцца медалі авальныя, шматкутныя ці проста адвольнай формы. Памер выбіраецца такім, каб медаль умяшчаўся на далоні.

Першыя настольныя медалі з'явіліся ў Італіі на рубяжы XIY-XY стагоддзяў. У Расіі яны сталі вядомыя пры Пятры І. У XIX стагоддзі сярод расійскіх выпускаў было некалькі з беларускай тэматыкай. У вядомай серыі медалёў работы выдатнага рускага мастака Ф.Талстога ўвекавечаны гістарычныя падзеі, што мелі месца на беларускай зямлі: "Перамога над шведамі каля вёскі Лясной у 1708 годзе", "Баі пры Бярэзіне", "Уцёкі Напалеона за Нёман". У пачатку XX стагоддзя з'явілася некалькі медалёў, адчаканеных па просьбе беларускіх арганізацый. Па заказу Горацкага сельскагаспадарчага інстытута — гэта навучальная ўстанова адкрыта ў 1840 годзе, была першай аграрнай школай у Расіі -- на Пецярбургскім манетным двары быў выбіты медаль. Выканаў яго прафесар Пецярбургскай акадэміі мастацтваў В.Аляксееў. Яшчэ адзін медаль быў выбіты па просьбе Магілёўскага таварыства сельскай гаспадаркі. Для папулярызацыі сваёй дзейнасці таварыства праводзіла сельскагаспадарчыя выставы, з'езды, конкурсы. Пераможцам гэтых конкурсаў, выстаў, удзельнікам з'ездаў і ўручаліся такія памятныя знакі. На адным баку медаля ў вянцы з фруктаў, гародніны, каласоў, лаўравых і дубовых галінах быў змешчаны герб Магілёўскай губерні. На адваротным баку паказаны араты на беразе ракі. Медаль гэты рабіў вядомы медальер Пецярбургскага манетнага двара А.Гіліхес.

На гэтым пералік памятных настольных медалёў на беларускую тэму, адчаканеных да 1917 года, на жаль, заканчваецца. У пасляваенныя гады да розных юбілейных гістарычных падзей чаканіліся памятныя медалі. Сярод іх трэба вылучыць памятныя медалі, выпушчаныя да 900-годдзя Мінска, 950-годдзя Брэста, 700-годдзя Магілёва, юбілеяў вызвалення рэспублікі і гарадоў ад фашысцкіх акупантаў. Вялікую цікавасць для калекцыянераў уяўляюць памятныя медалі, прысвечаныя 450-годдзю беларускага кнігадрукавання, серыя медалёў, што расказвае пра Ф.Скарыну, Я. Купалу, Я.Коласа.

Здавалася б, на гэтым можна і скончыць расказ пра беларускія памятныя медалі і медалі, прысвечаныя беларускай тэматыцы, вядомыя калекцыянерам. Але пра многія з іх нашы калекцыянеры проста не ведалі. Таму што медалі гэтыя рэдкія, выбіты ў адзінкавых экземплярах, захоўваюцца ў музеях Расіі, Польшчы, Літвы, у прыватных калекцыях за мяжой. Пазнаёміцца з імі дапаможа каталог радзівілаўскіх медалёў, выдадзены Нацыянальным музеем Літвы ў 1993 годзе ў Вільнюсе.

У каталогу апісана больш 30 памятных медалёў, прысвечаных роду Радзівілаў. Акрамя вялікага багацця і палітычнай улады, Радзівілы славіліся як мецэнаты, уладальнікі вялікіх калекцый. У 1554 годзе Мікалай Радзівіл Чорны (1515--1565 гады) заказаў для свайго





пяцігадовага сына Мікалая Хрыстафора Сіроткі медаль, што паклаў пачатак серыі фамільных медалёў. Радзівіл Чорны з'яўляецца заснавальнікам нясвіжскай нумізматычнай калекцыі. Калекцыянерам і паклоннікам медальернага мастацтва быў князь Біржайскі Хрыстафор П.Радзівіл (1585--1640). Выдатныя нумізматычныя калекцыі мелі апошні віленскі ваявода Мікалай Іеранім Радзівіл (1744--1831) і прэзідэнт Берлінскага нумізматычнага таварыства Вільгельм Радзівіл (1797--1870).

Памятныя медалі роду Радзівілаў, створаныя з нагоды шлюбаў, юбілеяў роду, прысвечаныя палітычнай дзейнасці, маюць вялікую мастацкую каштоўнасць. Гісторыя не захавала многіх імёнаў медальераў, якія стваралі медалі для роду Радзівілаў. Вядома, што шэраг медалёў выканаў славуты майстар Віленскага манетнага двара Ганус Трыльнер (памёр у 1652 годзе). Медалі для Хрыстафора Радзівіла і Януша II Радзівіла рабіў Дадлер (1586--1657). Вядомы медальер Іаган Хён-малодшы (1642--1693) з'яўляецца аўтарам медалёў, створаных для Багуслава Радзівіла, яго дачок Людвікі, Караліны.

Самы славуты род вяльмож Вялікага Княства Літоўскага валодаў замкамі ў Нясвіжы, Міры, Любчы, Біржаі і інш. Многія з гэтых замкаў адлюстраваны на медалях. У 1913 годзе быў адчаканены медаль па праекту І.Врабляўскага, прысвечаны 400-годдзю Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. На медалі паказаны Нясвіжскі замак і пералічаны род нясвіжскай лініі князёў Радзівілаў. На адваротным баку медаля -- герб Радзівілаў і надпіс "Нам дапамагае Бог". На медалі, адчаканеным у 1910 годзе да радавога з'езда Радзівілаў у Нясвіжы, паказаны Нясвіжскі замак. Радзівілаўскі замак у Біржаі (Літва) паказаны на медалі, адчаканеным у 1989 годзе па праекту мастака з Вільнюса С.Жылене і прысвечаны 400-годдзю горада. У каталогу апісаны і паказаны і іншыя цікавыя медалі роду Радзівілаў, што захоўваюцца ў Нацыянальным музеі Літвы, Каўнаскім дзяржаўным мастацкім музеі М.Чурлёніса, Дзяржаўным Эрмітажы (Расія), Нацыянальным музеі Кракава (Польшча). У каталогу дадзены кароткія апісанні нумізматычных калекцый Нясвіжа, біржайскага і берлінскага збораў, калекцыі віленскага ваяводы.

Хацелася б бачыць такое карыснае і цікавае выданне (не толькі для калекцыянераў) і на беларускай мове.

**Леў КОЛАСАЎ.**

## РУКОЙ РАСПУЦІНА

Запіска з уласнаручным подпісам Рыгора Распуціна паступіла ў фонды Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Гэта прашэнне аб уладкаванні на работу нейкай Ганны Бяляўскай, адрасаванае дзяржаўнаму чыноўніку і датаванае 1915-м годам. На вырваным з блакнота кавалачку паперы неахайна напісана: "Извиняюсь за беспокойство. Хочет барышня бедная трудиться" і подпіс любімца імператрыцы. Цікава, што ў запісцы з васьмі слоў, аўтарства якой, дарэчы, пацверджана экспертызай, -- 6 граматычных і некалькі сінтаксічных памылак, уключаючы напісанае чамусьці з літарай "о" прозвішча прасіцеля. Разам з іншымі канфіскаванымі пры спробе нелегальнага вывазу за мяжу каштоўнымі паперамі запіску перадалі ў музей супрацоўнікі мясцовай рэгіянальнай таможні. Частку іх год назад наведвальнікі музея маглі ўбачыць на выставе "Выратаваныя каштоўнасці".

## У ДЗЕСЯЦІ ТАМАХ

Выдавецтва "Юнацтва" распачало выпуск новай унікальнай кніжнай серыі -- "Бібліятэка беларускай дзіцячай літаратуры", якая выйдзе ў 10-ці тамах.

Першы том Бібліятэкі "Свяці, свяці, сонейка" днямі пабачыў свет на Мінскім паліграфічным камбінаце імя Якуба Коласа. У кнізе сабраны творы вуснай народнай творчасці, залацінкі народнай мудрасці: легенды, паданні, песні, жарты, гумарэскі, гульні, прыказкі, прымаўкі, загадкі, скорагаворкі. Наступныя два тамы складуць народныя казкі, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў чытачоў многіх краін свету. У трэцюю кнігу ўвойдуць творы нацыянальнай літаратуры ад сярэднявечча, пачынаючы ад Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, і да пачатку XX стагоддзя. Астатнія шэсць тамоў пазнаёмяць юных чытачоў з лепшымі творамі прозы, паэзіі і драматургіі майстроў мастацкага слова -- ад класікаў да тых, хто плённа працуе на ніве дзіцячай літаратуры сёння.

# РАЎБІЧЫ АДЗНАЧАЮЦЬ ЮБІЛЕЙ

**"Беларускай Швейцарыяй" называюць Раўбічы, што ў 20-ці кіламетрах ад Мінска. Маляўнічыя берагі ракі Усяж, узгоркі, паветра, настоенае на паху ігліцы і траў, -- усё гэта надае рэспубліканскаму спартыўнаму комплексу "Раўбічы" сваю арыгінальнасць і непаўторнасць..."**

*(З рэкламнага праспекта, выпушчанага НАК Беларусі напярэдадні Алімпіяды ў Лілехамеры).*




**Ужо два дзесяткі гадоў спартыўна-аздараўленчы комплекс "Раўбічы", а менавіта так гучыць яго поўная афіцыйная назва, з"яўляецца візітнай карткай спартыўнай Беларусі. Гэта не перабольшанне. Бо, як ні дзіўна, але функцыянеры і бізнесмены на Захадзе чулі, ведаюць пра "Раўбічы" і дрэнна ўяўляюць, дзе знаходзіцца краіна Беларусь. Больш таго, многія з іх лічаць, што размешчаны спорткомплекс... у Расіі, пад Масквой. "Раўбічы" прымалі чэмпіянаты свету па біятлону 1974, 1976, 1982, 1990 гадоў, этапы Кубкаў свету і Еўропы па біятлону і лыжных гонках 1985, 1991, Спартакіяду каманд дружалюбных армій у тым жа 1985 годзе і яшчэ шмат-шмат іншых спаборніцтваў. Усё было праведзена на найвышэйшым узроўні. Нездарма ж сёння ў калекцыі здабыткаў "Раўбічаў" Залаты знак, прысуджаны ім Міжнароднай федэрацыяй сучаснага пяцібор"я і біятлона.**

**З нагоды дваццацігоддзя комплексу "Раўбічы" тут прайшлі міжнародныя спаборніцтвы па летняму біятлону. Беларускія спартсмены зноў, як і ў мінулыя гады, пацвердзілі свой высокі клас. Так, на дыстанцыі 17,5 кіламетра першае месца заняў мінчанін Ігар Хахракоў. Хутчэй за ўсіх закончыла гонку са стрэльбай на 13,5 кіламетра сярэбраны прызёр Алімпіяды ў Лілехамеры Святлана Парамыгіна з Наваполацка.**

**НА ЗДЫМКУ: пераможца міжнародных спаборніцтваў Святлана ПАРАМЫГІНА; "Раўбічы" сёння.**
**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 6 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1411.
Падпісана да друку 3. 10.1994 г.